І ўсё ж бібліятэка, як і школа, пакінула ў жыцці вёскі добры след. Кніжкі ўсё больш уваходзілі ў побыт людзей».

У час ліквідацыі Чамяроўскай бібліятэкі імя Якуба Коласа некаторыя беларускія кнігі не трапілі ў паліцэйскія мяшкі. У прыватных сховішчах вяскоўцаў захаваліся творы айчынных драматургаў. Па іх мясцовая моладзь пачала ставіць у вёсцы спектаклі. Рэпертуар быў даволі шырокі. Найбольшым поспехам карысталася «Паўлінка» Янкі Купалы. Самадзейныя чамяроўскія артысты пры размеркаванні роляў стараліся адхіліць ролю пана Быкоўскага. Ну, а калі хто яе браў, то выконваў па-сапраўднаму смешна і праўдзіва.

Добра прымала публіка спектаклі па п'есах Уладзіслава Галубка і Францішка Аляхновіча. Большасць беларускіх спектакляў ставілі ў прасторных гумнах. Паэт Анатоль Іверс успамінаў і мне часта расказваў, што не так цяжка было падрыхтаваць спектакль, як атрымаць дазвол на яго пастаноўку ў пана павятовага старасты. А часам і дазвол не вырашаў справы. Паліцыя знаходзіла безліч прычын, каб забараніць вечарыну. Адной з прычынаў забароны, напрыклад, магла быць адсутнасць пры ўваходзе ў гумно дзвюх бочак з вадой і мётлаў на ражнах. Іх наяўнасць, лічылася, гарантавала супрацьпажарную бяспеку. Супрацьпаказана была і салома ў гумне. Але вясною рэдка ў якога гаспадара ляжалі ў гумне сена ці салома…

## 2

Генерал-лейтэнант інжынерных войск Яўген Леашэня (1900–1981) са Слоніма вельмі любіў і цаніў беларускую мову, культуру і гісторыю сваёй Айчыны. Прыкладам гэтага можа служыць яго знаёмства з многімі беларускімі дзеячамі літаратуры і мастацтва.

Асабліва шчырым было яго знаёмства і сяброўства з Якубам Коласам.

Імя Якуба Коласа Яўген Леашэня пачуў яшчэ тады, калі вучыўся ў Альбярцінскім (раней Альбярцін быў пасёлкам, а цяпер — мікрараён Слоніма) двухкласным вучылішчы (1912–1914), дзе выкладаў тады перадавы беларускі настаўнік Восіп Іванавіч Петрашкевіч. Ён знаёміў сваіх вучняў з творамі Янкі Купалы, Францішка Багушэвіча, Цёткі, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча. Гутаркі аб беларускай літаратуры Восіп Петрашкевіч праводзіў не ў класе, а ў школьным садзе або падчас экскурсіі ў лесе, на берагах ракі Шчара і Альбярцінскага возера.

У пачатку лістапада 1942 года ў Ташкенце, у доме Савецкай Арміі, адбыўся ўрачысты сход, прысвечаны 60-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. У прэзідыуме сходу сядзелі прадстаўнікі Вярхоўнага Савета і члены ўрада БССР. У цэнтры сядзеў сам юбіляр. Ён быў вельмі ўсхваляваны: не чакаў, што ў такі цяжкі для краіны час яго будуць віншаваць.

Ад імя арміі, Ваеннай акадэміі і франтавікоў юбіляра вітаў Яўген Леашэня. У перапынку Якуб Колас падышоў да Яўгена Варфаламеевіча, паціснуў руку і падзякаваў за цёплыя словы. У лютым 1943 года адбыўся чарговы выпуск Ваеннай акадэміі імя Фрунзе, і Яўген Леашэня запрасіў Якуба Коласа на ўрачыстасць.

У красавіку 1943 года Ваенная акадэмія імя Фрунзе, дзе Леашэня працаваў загадчыкам кафедры інжынерных войскаў, вярталася ў Маскву. Слонімец пакідаў Ташкент. Цёплым вясновым надвячоркам 15 красавіка Яўген Варфаламеевіч развітаўся з Якубам Коласам.

У 1944 годзе Леашэня зноў накіраваўся на фронт. Пачаў ліставацца з Якубам Коласам, расказваў пра вызваленую заходнюю частку Беларусі, пра сустрэчу з маці.

Толькі ў 1954 годзе Яўген Леашэня вярнуўся ў Маскву. Зноў пачаў працаваць, аднавілася і перапіска з Якубам Коласам.

Неўзабаве нашага земляка перавялі працаваць за мяжу, і ліставанне з Якубам Коласам перапынілася. Толькі з газет даведаўся ён аб смерці беларускага песняра. Засталіся на ўсё жыццё цёплыя ўспаміны пра сустрэчы і кніжка вершаў «Голас зямлі», выдадзеная Дзяржаўным выдавецтвам Узбекістана да 60-годдзя паэта, з аўтографам: «На ўспамін земляку — палкоўніку Леашэню. Якуб Колас. Ташкент, 1942 г.»

У снежні 1981 года не стала і генерал-лейтэнанта Я. В. Леашэні — удзельніка трох войнаў (Грамадзянскай, Вялікай Айчыннай і вайны з Японіяй), які быў узнагароджаны ордэнамі Леніна, Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны, Кутузава, Багдана Хмяльніцкага.

У 1984 годзе вуліца, якая вядзе са Слоніма на мікраён Альбярцін, была названа яго імем. А значна раней з'явілася ў Слоніме і вуліца Якуба Коласа.

## 3

Амаль усе паэты Слонімшчыны прысвячалі свае паэтычныя радкі Якубу Коласу. Першым, хто напісаў верш пра песняра, быў паэт Гальяш Леўчык (1880–1943). Верш увайшоў у яго першы зборнік «Чыжык беларускі» (Вільня, 1912):

Не бачыў цябе я ніколі,
Як «Песні» твае прачытаў —
Здаецца, што ў горкай нядолі
Душой ты мне братняю стаў!
Нас гора адно прыцiскае
У сумнай і цяжкай жальбе,
Няўмольна жаль горкі з'ядае
Абодвух — мяне і цябе…
Абодва мы — дзеці нядолі,
Век сумна, гаротна бяжыць.

І ў хаце, і ў лесе, і ў полі
Нам жальба на сэрцы ляжыць…

Вершы Якубу Коласу прысвячалі слонімскія літаратары Алег Лойка, Мікола Арочка, Анатоль Іверс, Іван Чыгрын. Псеўданімы класіка нашай літаратуры даследаваў Янка Саламевіч («Слоўнік беларускіх псеўданімаў», Мінск, 1983), пераклады Якуба Коласа на нямецкую мову — Уладзімір Сакалоўскі (кнігі «Пара станаўлення» (Мінск, 1986), «Беларуская літаратура ў ГДР» (Мінск, 1988)). У 1991 годзе Іван Чыгрын выдаў дыхтоўную манаграфію «Рэальнае і магчымае: проза Якуба Коласа». Манаграфія прысвечана праблеме мастацкай эвалюцыі творчасці Якуба Коласа. У ёй аўтар даследуе шляхі эпічнага станаўлення таленту пісьменніка ў жанры рэалістычнага апавядання, філасофска-алегарычнай прозы, у жанры рамана. Як сцвярджаў Іван Чыгрын (1931–2006), у адрозненне ад мастацкага лёсу іншых беларускіх празаікаў 20–30-х гадоў XX стагоддзя, творчасць Якуба Коласа доўжылася не адно дзесяцігоддзе, і, здавалася б, такі магутны талент, як яго, мог адзін акумуляваць шмат якія аспекты мастацкага вопыту, назапашанага сусветнай практыкай. У нейкім сэнсе так яно і здарылася. Але акумуляцыя падобнай шматстайнасці складанага літаратурнага працэсу ў практыцы аднаго творцы з пэўнай паўнатой не пад сілу нікому. На ўвазе павінен жа мецца і адпаведны ўзровень мастацкага асэнсавання. Якуб Колас, як сцвярджае аўтар, належным чынам сцвердзіў сябе галоўным чынам у жанры рэалістычнага ды алегарычнага апавядання, ушчыльную падышоўшы да сцвярджэння жанру рамана, тым самым абазначыў ідэю неадольнасці жанравага руху прозы ў літаратуры, якая імкнулася стаць сапраўдным мастацтвам. Сучасную прозу без рамана ўявіць немагчыма. І заслугі Якуба Коласа перад беларускай літаратурай тут бясспрэчныя.

Доктар філалагічных навук Алег Лойка пісаў: «Якуб Колас — у сваёй геніяльнай простасці, беларускасці — адзіны, непаўторны. Простае ў Якуба Коласа — мудрае, не мудрагелістае, не экстазнае. У ім, як даўно ўжо было заўважана А. Адамовічам, усе колеры вясёлкі, — дзённае святло, само бясколернае, ды з колераў, з сямістужкавага спектру. І ў выніку ўвідочніць коласаўскую прастату, народнасць, паэтычнасць сапраўды не проста. Няпростая прастата — гэта, відаць, у красе, у літаратуры найвышэйшае і, можа, якраз найвышэйшай пробы элітарнае, паэтычнае» (Алег Лойка. Галгофа. Слонім, 2001, с. 150–151. Менавіта Алег Лойка ў 1961 годзе выдаў манаграфію «“Новая зямля” Якуба Коласа: вытокі, веліч, хараство», у якой усебакова даследаваў паэму «Новая зямля» — «своеасаблівы гімн сялянству, песню ўслаўлення селяніна».

У сваёй двухтомнай «Гісторыі беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд» (Мінск, 1989) Алег Лойка таксама звяртаецца да аналізу жыццёвага і творчага шляху Якуба Коласа. Пісьменнік адзначае, што «дарэвалюцыйная (маецца на ўвазе да 1917 года. — *С. Ч.*) творчасць паэта — пляцоўка ўздыму Я. Коласа-мастака, такі этап у яго ідэйна-творчай эвалюцыі, без якога ідэя жыцця Коласа, канцэптуальнасць яго творчасці ў цэлым, якімі яны бачацца сёння, не маглі б сфарміравацца. Дарэвалюцыйная творчасць яго — важнейшы этап станаўлення Якуба Коласа-мастака, вылучэнне асобнай коласаўскай эстэтычнай канцэпцыі жыцця і чалавека». Алег Лойка пісаў, што Якуб Колас як мастак, як філосаф канчаткова і шырэй сцвердзіў сябе ўжо ў савецкі час. У сваёй творчай эвалюцыі, на думку Лойкі, сімпатыі з селяніна Якуб Колас пашыраў на чалавека ўвогуле. У кожным чалавеку ён імкнуўся знайсці добрае, светлае. У трылогіі «На ростанях» Якуб Колас паказаў сімпатычнага айца Уладзіміра, які

падчас споведзі Лабановіча замест Бібліі кладзе яго руку на том Пушкіна. І жандар у Якуба Коласа — не абавязкова свіное рыла, а чалавек, які спачувае Лабановічу, які адчувае сябе няёмка, мусячы выконваць абавязкі наглядчыка над гэтым маладым сумленным настаўнікам. Ні кроплі схематычнага, вульгарызатарскага разумення чалавека, людзей розных саслоўяў! А калі і паказваў Колас абывацельства, то з чалавечым шкадаваннем, з усмешкаю, са шчымлівай насмешкай, як гэта, напрыклад, можна назіраць у вобразе Тараса Іванавіча Шырокага ў трылогіі або пана Зыгмуся ў апавяданні «Хатка над балотцам». З народных глыбінь браў пачатак гуманізм Якуба Коласа, глыбока народная маральная аснова была ў яго. Вера ў чалавека, любоў і павага да яго, непрыманне ўсяго, што робіць людзей нечалавечнымі, — вось што стала зыходным і асноўным у мастацкай канцэпцыі Якуба Коласа.



Іду тваім следам, Янка Купала,
Але хто толькі туды не ступаў —
Ён шырокі і слізкі,
Іду і… падаю,
Але іду.

## ЯНЫ БЫЛІ СЯБРАМІ

Пры жыцці народны паэт Беларусі Янка Купала шчыра сябраваў з маімі землякамі са Слонімшчыны — літаратуразнаўцам і бібліёграфам Яўгенам Хлябцэвічам і доктарам медыцынскіх навук Андрэем Пракапчуком. Дзве згадкі пра гэта сяброўства.

## Янка Купала і Яўген Хлябцэвіч

У добрых і шчырых адносінах з Янкам Купалам быў літаратуразнавец і бібліёграф з вёскі Жыровічы Слонімскага раёна Яўген Хлябцэвіч (1884–1953). Пасябравалі яны яшчэ ў Пецярбурзе. Пра гэта сведчаць успаміны Яўгена Хлябцэвіча, а таксама матэрыялы з яго студэнцкай справы, уведзеныя ў навуковы абыходак Рыгорам Семашкевічам: тэлеграма Хлябцэвіча з Бельска да Купалы, заява ва ўніверсітэцкую канцылярыю, напісаная Купалам па просьбе Хлябцэвіча, і іншыя (Р. М. Семашкевіч. Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе. Мінск, 1971, с. 67).

Прыкладам знаёмства і сяброўства Хлябцэвіча з Купалам можа служыць і вядомы многім здымак, зроблены ў 1913 годзе пасля прэм'еры «Паўлінкі» ў Пецярбурзе, дзе разам з Купалам, акцёрамі і пастаноўшчыкамі камедыі сфатаграфаваны і Яўген Хлябцэвіч.

Пасля вучобы ў Пецярбурзе Хлябцэвіч рэдка сустракаўся з Янкам Купалам, таму што жылі яны далёка адзін ад аднаго. І ўсё ж у 1930 годзе ў Маскве, у Камуністычнай акадэміі, на пасяджэнні, прысвечаным 25-годдзю творчай дзейнасці Купалы, яны сустрэліся зноў. Янка Купала, убачыўшы перад адкрыццём пасяджэння Яўгена Хлябцэвіча, пацікавіўся яго асабістым жыццём, упікнуў літаратуразнаўцу з-за рэдкага наведвання ў Мінск… Столькі гадоў не бачыўшы адзін аднаго, яны мелі аб чым пагутарыць.

Яўген Хлябцэвіч напісаў і апублікаваў шмат артыкулаў пра творчасць народнага песняра. Сярод іх — «"Жалейка" Янкі Купалы», «Янка Купала ў Пецярбурзе», «Янка Купала і бібліятэкі», «Янка Купала і Пецярбургскі ўніверсітэт», «Янка Купала на агульнаадукацыйных курсах А. С. Чарняева» ды іншыя. Усе

яны даўно павінны быць сабраны пад адну вокладку як памяць пра іх сяброўства і выдадзеныя.

Яўген Хлябцэвіч быў адным з першых, хто прыйшоў на дапамогу Уладзіславе Францаўне Луцэвіч па справе стварэння Літаратурнага музея Янкі Купалы ў Мінску. Яшчэ ў 1944 годзе ён напісаў успаміны і перадаў у музей матэрыялы пра пецярбургскі перыяд жыцця песняра. Пазней цікавіўся гісторыяй выдання ў 1919 годзе зборніка вершаў Купалы на рускай мове, падрыхтаваў артыкул «Янка Купала ў Маскоўскім народным універсітэце імя Шаняўскага», дзе выкарыстаў архіўныя матэрыялы.

Пра Янку Купалу і Яўгена Хлябцэвіча можна расказваць шмат. Тым больш, што пачатак даўно зроблены літаратуразнаўцам Віталем Скалабанам, які яшчэ ў 1985 годзе апублікаваў у часопісе «Нёман» першы цікавы артыкул «Купала і Хлябцэвіч». Пасля былі ў друку і іншыя публікацыі.

## Янка Купала і Андрэй Пракапчук

У канцы 1920-х гадоў жыццё ў Менску было featured рознае: са сваімі радасцямі і засмучэннямі. Такой радасцю і разам з тым засмучэннем для доктара медыцынскіх навук са Слонімшчыны Андрэя Пракапчука (1896–1970) адбылося знаёмства з Янкам Купалам. Засмучэннем таму, што яго блізкае знаёмства з Купалам пачалося з прычыны хваробы песняра.

Аднойчы Андрэю Якаўлевічу патэлефанавалі ў менскую клініку і паведамілі, што тэрмінова патрэбна яго кансультацыя: захварэў Янка Купала, ёсць падазрэнне на дэрматыт, бо трэці дзень паэт скардзіцца на тое, што ў яго баліць скура на твары, пячэ, ён не можа да яе дакрануцца. І тэмпература падскочыла — 38,9…

Некалькі дзён Андрэй Пракапчук літаральна не адыходзіў ад паэта, і нарэшце лячэнне дало вынікі: Янка Купала паправіўся, павесялеў. На сэрцы ў доктара пасвятлела…

З таго часу Андрэй Якаўлевіч даволі часта бываў у доме народнага песняра і любіў там бываць. У Купалы заўсёды было людна, там збіралася літаратурная моладзь, гарачая, цікавая і разумная. І з Якубам Коласам ён пазнаёміўся ў Купалы, у яго гасцінным доме, дзе такой шчырай і ветлівай гаспадыняй увіхалася цётка Ўладзя, яго жонка.

Збярогся да сённяшніх дзён чацвёрты том Збору твораў Янкі Купалы, выдадзены ў 1940 годзе. На ім надпіс: «Дарагому прафесару, акадэміку А. Я. Пракапчуку на добрую памяць. Шчыра адданы Янка Купала. 21.04.1940, Мінск».

У кастрычніку 1940 года Янка Купала і Андрэй Пракапчук наведалі Гродна. Гэта, відаць, і была іх апошняя сумесная паездка па роднай Беларусі…



«O Litwo, Ojczyzno moja», —
Пакінуў нам Адам Міцкевіч.
«Дзе ж мой дом, дзе мой люд?
Дзе Айчызна мая?» —
Пытаецца ў нас Янка Купала.

## ЯНКА КУПАЛА І БЕЛАРУСКАЯ ЭМІГРАЦЫЯ

У сваёй кнізе «Беларуская эміграцыя» (Мінск, 1991, с. 14) Барыс Сачанка згадаў адзін выпадак, пра які яму расказваў Андрэй Макаёнак. Было гэта ў 1973 годзе. У Араў-парку ў горадзе Манро паблізу Нью-Ёрка

Андрэй Макаёнак разам са скульптарам Анатолем Анікейчыкам адкрывалі помнік Янку Купалу. На свята сабраліся тысячы людзей. І калі Андрэй Макаёнак пачаў чытаць верш Янкі Купалы «Брату на чужыне» і дайшоў да слоў: «Ці помніш ты сваю матулю, / Што над калыскаю тваей / Пяяла песню-байку “люлі”, / Снуючы ў думках рой надзей?» — пачуўся плач. Андрэй Макаёнак ажно схамянуўся, бо не думаў, што гэты верш так кагосьці ўразіць, кране. А самыя апошнія словы: «Край беларускі, мірны, сумны, / Свой родны край ці помніш ты?» — патанулі ў воплесках і рыданнях…

А Вітаўт Кіпель у сваёй кнізе «Беларусы ў ЗША» (Менск, 1993, с. 260) згадвае словы аднаго беларуса: «У нядзелю 30 траўня я прыйшоў з сябрамі ў Араў-парк… Перш-наперш я наведаў помнікі Т. Шаўчэнку, А. С. Пушкіну, Уолту Уітману і, ведама ж, майму земляку Янку Купалу. Гледзячы на Купалу, я думаў: вось мы тут, у Амерыцы, думаем, што мы расейцы. Але ж у сапраўднасці мы беларусы…» Вось якое значэнне меў і мае помнік Янку Купалу для нашых эмігрантаў у далёкай краіне.

Наогул, на чужыне беларусам ніколі не было лёгка, якой бы багатай і шчырай гэтая чужына не была. Беларусы заўсёды хацелі і хочуць жыць дома. Але лёс для многіх складваўся неспрыяльна. І там, далёка ад роднай Бацькаўшчыны, многіх нашых суайчыннікаў ад настальгіі лячылі творы беларускіх песняроў — Янкі Купалы і Якуба Коласа. Асабліва тых, хто апынуўся на чужыне ў час Першай і Другой сусветных войнаў. Мікола Ганько, калі ў 1993 годзе наведаў Бацькаўшчыну, сказаў: «Вырастаючы ў таварыстве пісьменнікаў, паэтаў і гісторыкаў, я моцна палюбіў паэзію з Янкам Купалам на чале. Калі прыходзіла хандра, я звычайна браў творы Купалы. Гэта была мая маральная апора, з якой я чэрпаў сілу да далейшага жыцця…»

Янка Купала даваў сілы ўсёй беларускай эміграцыі XX стагоддзя. Шмат хто з эмігрантаў ведалі Купалу асабіста, былі ў яго дома, сустракаліся, гутарылі. Пра песняра далёка ад дому згадалі ў сваіх успамінах Іна Рытар, Аўген Калубовіч, Мікола Шыла, Мікола Кулікowіч-Шчаглоў і іншыя. А ў 1923 годзе сам Янка Купала пісаў у Чыкага пісьмо Янку Чарапуку-Змагару, у якім хадайнічаў за беларускіх студэнтаў і прасіў дапамогі для тых, хто вучыўся ў Вільні і ў Празе. І просьбу Купалы беларускія эмігранты выканалі.

28 чэрвеня 1942 года Янка Купала трагічна загінуў у Маскве. А праз два дні гэтая сумная вестка праз «Асашэйтэд Прэс» дайшла да ўсіх беларусаў свету. «Белорусский иллюстрированный календарь на 1943 год», які выходзіў на рускай мове ў Буэнас-Айрасе ў Аргенціне, надрукаваў артыкул пад назовам «Умер друг всего белорусcского народа Янко Купало», а таксама змясціў партрэт паэта, кароткі нарыс пра яго жыццё і творчасць і вершы — «Песня вольнага чалавека» і «Ворагам Беларушчыны».

Беларусы на чужыне вельмі моцна перажывалі смерць Янкі Купалы. Літаратурна-мастацкі часопіс «Шыпшына» адзначыў 4-я ўгодкі смерці Янкі Купалы передрукам ягоных вершаў «А хто там ідзе?», «На сход», «Паўстань з народу нашага, Прарок» і твораў, прысвечаных песняру. Услед за «Шыпшынай» пра Янку Купалу пісалі ўсе беларускія эміграцыйныя выданні. Яны змяшчалі ягоныя творы, успаміны, выступленні, здымкі. Бадай у кожным нумары беларускіх выданняў на чужыне згадваўся Янка Купала — прарок беларускага народа. Пра песняра пісалі «Беларускія навіны» і «Моладзь» (Парыж), «Новае жыццё» (Сідней), «Беларускі эмігрант», «Беларускі голас», «Баявая Ускалось» (Таронта), «Аб’еднанне» (Лондан), «Змаганне», «Крывіцкі Сьветач» і «Бацькаўшчына» (Мюнхен), «Znic»

(Рым), «Віці», «Беларус» (Нью-Ёрк), «Раніца» (Берлін), «Беларускае слова» і «Беларуская думка» (Саўт-Рывер) і многія іншыя выданні.

13 снежня 1942 года ў Чыкага (ЗША) адбыўся першы вечар памяці Янкі Купалы, на які сабраліся беларусы з многіх штатаў. А паніхіду па песняру адслужылі яшчэ раней — 11 кастрычніка 1942 года.

Каб увекавечыць памяць генія беларускага народа, педагагічная рада першай беларускай гімназіі ў Баварыі прысвоіла гімназіі імя Янкі Купалы і стварыла пры ёй фонд імя Купалы. Пра гэтую падзею Іна Рытар-Кахаоўская згадвала так: «У той дзень адбылася акадэмія. На сцэне вісеў вялікі партрэт Янкі Купалы, намаляваны спецыяльна для ўрачыстасці мастаком Д. Чайкоўскім. З гэтага партрэта заказалі клішэ, з якога скаўцкае выдавецтва зрабіла дзве серыі адбіткаў: адну — для праграмак акадэміі, другую — для паштовак. Выкладчык беларускай мовы і літаратуры А. Каханоўскі прачытаў рэферат пра жыццёвы і творчы шлях Я. Купалы. Пасля рэферату быў канцэрт. Кампазітар Мікола Куліковіч для гэтага канцэрта напісаў музыку да вершаў Я. Купалы “Я ад вас далёка”. Песню дуэтам выконвалі вядомыя салісткі Мінскага опернага тэатра — Наталля Куліковіч (Чэмярысава) і Барбара Вержбаловіч. Акампаніраваў ім на піяніна сам кампазітар. Песня гэтая мела надзвычайны поспех. Перажыванні паэты, разлучанага з родным краем, спляліся з пачуццямі слухачоў, адгукнуліся болем у іхных сэрцах». (Ян Максімюк. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне 1945–1950. Нью-Ёрк, 1994, с. 81–82).

У 1940–1950-х гадах мінулага стагоддзя да Янкі Купалы і яго творчасці беларускія эмігранты сталі звяртацца ўсё часцей і часцей. Актыўна адзначаюцца ўгодкі з дня яго нараджэння, смерці, юбілеі кніжак і асобных твораў, інсцэніруюцца яго камедыі і іншыя драматы-

чныя творы. Восенню 1945 года ў Буэнас-Айрасе (Аргенціна) было заснавана Беларускае культурна-асветнае таварыства імя Янкі Купалы, а ў мясцовасці Камадора Рывадавія была адкрыта бібліятэка імя Я. Купалы. 1 ліпеня 1948 года ў Парыжы таксама з'явілася беларуская бібліятэка імя Янкі Купалы. У ліпені 1952 года каля вадаспаду Ніягара адбылася Першая сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі. На ёй былі адзначаныя 10-я ўгодкі смерці Янкі Купалы. А Вінцэнт Жук-Грышкевіч выступіў з дакладам пра песняра. Дарэчы, пазней спадар Жук-Грышкевіч абароніць доктарскую дысертацыю на тэму «Лірыка Янкі Купалы» на філасофскім факультэце Атаўскага ўніверсітэта ў Канадзе.

Беларуская моладзь на эміграцыі ў 40–60-я мінулага стагоддзя была вельмі актыўнай. Юнакі і дзяўчаты захапляліся не толькі паэзіяй нашага класіка, але і яго драматычнымі творамі. Не было такой вечарыны, дзе б беларуская моладзь не ладзіла спектаклі і інсцэніроўкі па п'есах Янкі Купалы. У лагеры Ватэнштэт (Германія) 24 сакавіка 1946 года быў пастаўлены абразок «На папасе», а на наступны год быў інсцэніраваны верш Купалы «Цару неба і зямлі», некалькі разоў тут ставілася «Паўлінка». У 1951 годзе ў Нью-Ёрку драматычным гуртком беларускай моладзі быў арганізаваны і пастаўлены мантаж па творах Купалы «Пяснярскім Шляхам» пад кіраўніцтвам Наталлі Орса. А праз тры гады была інсцэніравана паэма «Курган» (рэжысёр Наталля Орса). У 1960 годзе ў Саўт-Рыверы беларускім драматычным гуртком была пастаўлена «Паўлінка» (рэжысёр Ірэна Цупрык-Жылінская), якая паказвалася шмат разоў.

У многіх краінах свету з дакладамі і рэфератамі, прысвечанымі жыццю і творчасці Янкі Купалы, выступалі беларусы-эмігранты Масей Сяднёў, Вітаўт Кіпель, Антон Адамовіч, Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Язэп Малецкі, Уладзімір Клішэвіч, Алесь Алехнік, Станіслаў

Станкевіч, Аляксандр Калодка, Уладзімір Сядура і іншыя беларускія пісьменнікі і гісторыкі. Творчасць Янкі Купалы абуджала беларусаў на чужыне, натхняла іх, дапамагала ім адчуваць сябе як на Бацькаўшчыне. Янка Купала быў і застаўся сімвалам духоўнае сілы беларусаў. Праўда, у канцы 1940-х і ў пачатку 1950-х гадоў, як і раней, далёка ад Радзімы не заўсёды хапала паэтычнай Купалавай спадчыны, адпаведных вершаваных тэкстаў, ды і наогул, многіх твораў нашага песняра. Таму ў Ватэнштэце, Міхельсдорфе і Мюнхене ў 1946–53 гадах асобнымі кнігамі былі выдадзеныя «Курган», «Магіла льва», «На Куццю», «Раскіданае гняздо» і «Тутэйшыя» Янкі Купалы. А ў 1955 годзе ў выдавецтве «Бацькаўшчына» (Нью-Ёрк – Мюнхен) свет пабачыў вялікі том паэзіі Янкі Купалы «Спадчына» з уступным словам Станіслава Станкевіча, падрыхтаваны Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку. Гэта была вялікая літаратурная падзея для ўсёй беларускай эміграцыі ў свеце. Пра выхад «Спадчыны» напісалі многія беларускія эміграцыйныя выданні. Адгукнулася на выхад кнігі Янкі Купалы і небеларуская прэса, у прыватнасці, амерыканскія, англійскія, нямецкія, польскія, украінскія і французскія выданні. Газета «Бацькаўшчына» 11 лютага 1956 года пісала, што «Спадчына» годна рэпрэзентуе Беларусь. Некалькі перадач пра выхад паэзіі Янкі Купалы падрыхтавала радыё «Вызваленне» (пазней — «Свабода»).

Праз 30 гадоў пасля выхаду «Спадчыны» Янкі Купалы ў Мюнхене, дзякуючы ўсё таму ж Беларускаму інстытуту навукі і мастацтва, з’явілася выдатная бібліяграфічная праца, складзеная Вітаўтам і Зорай Кіпелямі, якая называецца «Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе». Ва ўступе да яе напісана: «Укладальнікі прапанаванае бібліяграфіі імкнуліся зарэгістраваць

усё, што пісалася пра Купалу й Коласа ў беларускамоўным друку на Захадзе, па-за краінамі савецкага блоку. У меру дасяжнасці матэрыялаў рэгістравалася й тое, што пісалася аб паэтах у беларускім друку былой Заходняй Беларусі, Літвы, Латвіі, Чэхаславаччыны ды Савецкай Беларусі, не ўлічанае папярэднімі бібліяграфіямі».

Перафразаваўшы радкі Станіслава Станкевіча з уступнага слова да мюнхенскай «Спадчыны» Янкі Купалы, хочацца сказаць, што роля і значэнне Купалы ў беларускай літаратуры вымяраюцца двума аспектамі ягонае творчасці: ідэйным і літаратурна-мастацкім. Гэтыя два моманты і надаюць Янку Купалу цэнтральнае і вядучае месца ў беларускай літаратуры, а таксама ў нашым сённяшнім жыцці і ў жыцці ўсёй беларускай эміграцыі XX стагоддзя.



Свет чытае Харукі Муракамі,
Ты чытаеш
Якуба Коласа.

## ЯКУБ КОЛАС НА СТАРОНКАХ ЧАСОПІСА «БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС»

Штомесячны культурна-грамадскі і літаратурны часопіс «Беларускі летапіс» (напачатку называўся «Летапіс Таварыства беларускай школы») выдаваўся ў Вільні з мая 1933 года да верасня 1939. Часопіс быў заснаваны як орган Таварыства беларускай школы (ТБШ) на чале з Рыгорам Шырмам, Феліксам Стацкевічам і Сяргеем Паўловічам. Выйшла з друку 19 нумароў, асобныя былі здвоеныя.

Часопіс «Беларускі летапіс» асвятляў надзённыя праблемы і здабыткі культурна-грамадскага жыцця Заходняй Беларусі, а таксама пераасэнсоўваў урокі класічнай беларускай літаратуры. На старонках часопіса друкаваліся амаль усе вядомыя на той час пісьменнікі Заходняй Беларусі. Адводзілася месца і класікам — Янку Купалу, Якубу Коласу, Максіму Багдановічу, а таксама ўкраінскай, літоўскай, рускай, польскай літаратуры ў перакладзе на беларускую мову.

Пра Якуба Коласа «Беларускі летапіс» актыўней пачаў пісаць у 1936–1937 гадах. Першы нумар часопіса за 1936 год амаль поўнасцю быў прысвечаны Якубу Коласу. На вокладцы часопіса рэдакцыя апублікавала партрэт народнага паэта Беларусі. Часопіс адкрываўся артыкулам Рыгора Шырмы «Ідэя волі ў паэзіі Якуба Коласа», прысвечаным 30-годдзю літаратурнай творчасці песняра. Шырма пісаў, што ў творах Якуба Коласа спявае пра волю нават голас вясновай ночы, а першы гром, у раскатах якога чуецца воля і радасць зямлі, растрывожыў і «ўскатурхнуў думы паэта»:

Моцна мяне ты клічаш на волю,
Цяжка без волі мне тут!
Кланяйся грому, роднаму полю,
Родны вітай ты мой кут!

«Векавое няшчасце беларускага народа — няволя», — разважае аўтар артыкула. Таму Якуб Колас «закрасаваў на ніве ў самую раніцу народнага Адраджэньня. Ён прынёс нам высокія ідэі, ён паказаў нам вялікую мудрасьць Красы і Праўды, знайшоў крыніцы той жывой вады, якая робіць нас вольнымі».

Часопіс «Беларускі летапіс» у першым нумары за 1936 год публікуе артыкул «Якуб Колас у астрозе» паводле астрожных пісем паэта. Якуба Коласа пасадзілі ў астрог на тры гады за арганізацыю ў 1906 годзе

нелегальнага з’езда народных настаўнікаў-беларусаў уМікалаеўшчыне. У артыкуле чытаем: «Бо і як жа, ці ж то злачынства было дамагацца беларускай школы для беларускіх дзяцей? Дый ці ж адзін толькі царскі ўрад у Расіі глядзеў гэтак на справу беларускай школы?!.»

У мінскім астрозе Якуб Колас напісаў 51 верш. Пра гэта таксама згадваецца ў артыкуле. Друкуецца ў часопісе і аўтограф верша «У дарозе».

Цікава чытаецца ўспамін пра песняра аўтаркі, якая падпісалася крыптанімам А. Р. Асабліва тыя моманты, калі аўтарка распавядае, як разам з Коласам наведала Пецярбург на Каляды 1907 года: «Праваднікам па сталіцы быў Колас. Ён падходзіў да кожнага гарадавога на варце, распытваў, як куды выйсьці і вёў пасля мяне, хвалячы гарадавых і прыношаную ім карысьць. Нас асабліва смяшылі гэтыя гутаркі з паліцыяй нелегальнага Коласа. Раз, між іншым, узялася вясьці я. Ішлі мы ў народны дом, на оперу. Вадзіла я свайго спадарожніка аж да стомы, заплутаўшыся ў даўгіх і пустых “мяшчанскіх” вуліцах. Доўга не хацела здавацца: нарэшце з сорамам прызналася, што не выблытаюся. Узялі мы возьніка. Той правёў нас за вугал і стаў перад народным домам…»

Язэп Каранеўскі ў снежаньскім нумары «Беларускага летапісу» за 1936 год аналізуе творчы шлях Якуба Коласа. Аўтар у даволі кароткай форме спыніўся на апавяданнях, аповесцях, паэмах «Новая зямля» і «Сымон-музыка». Згадаў ён і пра драматычныя творы, але падкрэсліў, што «творы гэтыя зьяўляюцца даволі мернай якасьці і на агульны абраз коласаўскае творчасьці не ўплываюць».

У канцы артыкула пра творчы шлях Якуба Коласа Язэп Каранеўскі падсумаваў, што «Купала зьяўляецца ідэолёгам беларускага адраджэньня і прарокам народным, Колас жа перадусім мастаком роднага краю, у

якога творчасьці знайшлі найбольш поўнае мастацкае выяўленьне ўсе нацыянальныя асаблівасьці беларуса».

Гэты нумар часопіса надрукаваў урывак з аповесці Якуба Коласа «Дрыгва», якая была выдадзена асобнай кніжкай у Мінску ў 1934 годзе. Урывак мае назву «На Прыпяці».

Травеньска-чэрвеньскі нумар «Беларускага летапісу» за 1937 год адкрываецца артыкулам брата Якуба Коласа М. Міцкевіча «Крыніца пэсымізму ў творчасьці Якуба Коласа», прысвечаным 30-годдзю паэтычнай творчасці песняра. З яго вынікае, што песімізм у творах Якуба Коласа пачынаецца з рускамоўных вершаў. «Калі чытаеш тыя вершы (яны цяпер перахоўваюцца ў Беларускім Музэі ў Вільні), мімаволі будзіцца жаласьць да аўтара, як да чалавека бяздольнага, няшчаснага», — піша малодшы брат Коласа Міхась. Якуб Колас ачысціўся і вызваліўся ад песімізму толькі тады, калі адышоў ад чужой школы і стаў вялікім песняром беларускага народа. Менавіта тады, калі літаратар знайшоў красу ў сваім родным — беларускім, калі здабыў веру ў творчыя сілы свайго народа — адразу знік песімізм. «І тады і сам ён, і яго героі на пытаньне: жыцьцё ці сьмерць? — адказалі: жыцьцё!», — завяршае артыкул М. Міцкевіч.

У кожным нумары пад рубрыкай «Наша хроніка» часопіс друкаваў навіны з розных куткоў Заходняй Беларусі. У красавіку 1937 года, напрыклад, часопіс паведамляў, што моладзь вёскі Новая Весь на Наваградчыне наладзіла адно беларускае мерапрыемства з дэкламацыяй вершаў. Хацелі хлопцы і дзяўчаты таксама арганізаваць і вечар, прысвечаны Якубу Коласу, і папрасілі школьную залу, але дырэктар школы не дазволіў пакарыстацца памяшканнем. З’яўляліся на старонках «Беларускага летапісу» і іншыя згадкі пра Якуба Коласа.



Доўгай дарога не бывае:
Яна — бясконцая —
Да маці, да роднай хаты, да Янкі Купалы.

## ДЗВЕ ПАЕЗДКІ Ў БЕЛАСТОК

Упершыню народны паэт Беларусі Янка Купала наведаў Беласток у кастрычніку–лістападзе 1939 года.

8 кастрычніка 1939 года разам з групай беларускіх пісьменнікаў — Якубам Коласам, Змітраком Бядулем, Міхасём Клімковічам, Янкам Маўрам, Макарам Паслядовічам і іншымі — Янка Купала выехаў з Мінска ў Беласток. Дарогаю пісьменнікі наведалі Стоўбцы і Ваўкавыск. Магчыма, літаратары ехалі на сваіх машынах — Якуб Колас на сваёй, а Янка Купала — на ўласным «Шэўрале». З сабой яны везлі і некаторых пісьменнікаў.

Першая літаратурная сустрэча ў Беластоку адбылася ў тэатры «Апалон». На сустрэчы выступілі Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Міхась Клімковіч, а таксама Янка Купала, які прачытаў некалькі вершаў з цыкла «На заходнебеларускія матывы». Пра гэту сустрэчу ў Беларусі пісалі газеты «Звязда», «Савецкая Беларусь» і «ЛіМ». Тады Янка Купала з радасцю чытаў свае натхнёныя радкі:

Накарміліся панскаю ласкай,
Горкіх слёз напіліся дасыта.
Што здавалася ўчора йшчэ казкай,
Прыйшло сёння у сонцы спавітым.
Расплываліся ў небе туманы,
Разганяў вецер ссохшае лісце.
Салавейка спяваў над курганам,
Неяк быццам спяваў галасісцей.

Ішлі гоманы нівай наспелай,
Гарады адклікаючы й вёскі.
Белавежская пушча шумела,
І шумеў цёмны лес Аўгустоўскі…

Другая сустрэча з жыхарамі Беластока адбылася на сходзе настаўнікаў. Народны паэт цікавіўся жыццём працоўных і інтэлігенцыі Заходняй Беларусі, сам адказваў на розныя пытанні беларускіх настаўнікаў Беласточчыны. А 28–30 кастрычніка Янка Купала як дэлегат удзельнічаў у рабоце Народнага сходу Заходняй Беларусі, які прыняў Дэкларацыю аб уключэнні Заходняй Беларусі ў склад БССР. Калі Янка Купала ў зале пасяджэнняў Народнага сходу Заходняй Беларусі з'явіўся перад дэлегатамі, як бацька перад сынамі, прыгадваў Валянцін Таўлай, то моцны працяглы гул стаяў у зале, стаяў доўга і не сунімаўся. Сапраўды, у 1920–1930-х гадах у кожнай заходнебеларускай вёсцы, горадзе, у кожным гуртку ТБШ, бібліятэцы-чытальні і ў звычайнай сялянскай хаце можна было ўбачыць партрэты Янкі Купалы. Асабліва быў папулярным партрэт Янкі Купалы, выдадзены літаграфаваным спосабам у Вільні ў 1927 годзе. Гэты партрэт сярод беларусаў Заходняй Беларусі быў настолькі папулярным, што Максім Танк увёў яго як пераканаўчую мастацкую дэталь у верш «Шэрыя хаты, платы і вароты» і ўключыў у зборнік «Журавінавы цвет» (1937). Гэты верш — аб прыгнечанай долі селяніна, пазіраючы на якую, «у рамках сумуе Купала».

Імя Янкі Купалы можна сустрэць было і ў прыватных гутарках, на вечарынках, і ў палітычных артыкулах і карэспандэнцыях з вёсак. Друк нацыянальна-вызваленчага руху стракацеў радкамі і строфамі Янкі Купалы, асабліва ў допісах з глыбінкі. Імя Янкі Купалы, як пісаў Валянцін Таўлай у артыкуле «Творчасць Янкі

Купалы ў барацьбе за ўз'яднанне беларускага народа», а таксама радкі і асобныя строфы паэта часта з'яўляліся на сценах астрогаў, куды траплялі беларускія хлопцы, якія, кажучы словамі Максіма Танка, «аб'язджалі без білетаў далёкія старонкі». Творы Янкі Купалы, якія ў памяці прыносіліся за краты асуджанымі беларусамі, былі для ўсіх палітзняволеных вялікай маральнай падтрымкай.

І раптам беларусы Заходняй Беларусі ў Беластоку ўбачылі жывога песняра, творы якога дапамагалі ім жыць, змагацца, працаваць. Таму так шчыра, доўга і цёпла віталі яны роднага Купалу.

Перад удзельнікамі сходу Янка Купала прачытаў свой верш «Настаў чарод» з цыкла «На заходнебеларускія матывы». Вось некалькі строф з гэтага верша:

Цябе, мой брат,
Губіў пан-кат,
Скарынцы хлеба ты быў рад,
У світцы з лат
Не ведаў свят
І не мінаў астрожных крат.
Плыве гул-сказ:
— Настаў твой час,
Час кінуць жудкі свой папас!
Быць сярод нас
Між ясных крас
Мы клікалі цябе не раз…

У Беластоку Народны паэт Беларусі пазнаёміўся з Максімам Танкам, Міхасём Машарам, Піліпам Пестраком. У блакнот Міхася Машары Янка Купала напісаў такія радкі: «Дзень добры, таварыш Машара, на вызваленых землях Заходняй Беларусі! Жывіце радасна і шчасліва, як мы, старэйшыя, жывём. Я. Купала. Беласток. 29/X-39» (Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы, ф.1, воп. 2, адз. зах. 20).

Алег Лойка ў рамане-эсэ пра Янку Купалу, згадваючы Народны сход Заходняй Беларусі, пісаў: «Яны, Купала і Колас, на сходзе былі скрозь і ўсюды поруч. Што гаварыў, пісаў аб сходзе Колас, тое было і ў сэрцы Купалы, тое захапляла, уражвала, хвалявала і Купалу. І абодва яны разумелі, адчувалі, што яны — пры вялікай эпічнай тэме народнай героікі, народнай барацьбы і пакуты, мары і надзеі, веры і ўпэўненасці. Іх позіркі ў твары дасюль незнаёмых ім людзей былі пільнымі і любоўнымі. Іх вочы прагна ўбіралі ў сябе, як ужо дапатопнае дзіва, краявіды з незаворанымі межамі, вузкімі палоскамі, з падслепаватымі пад шэрай саломай хатамі і падпертымі каламі гуменцамі і хлеўчукамі… Купала, пэўна, больш Коласа ўсё браў на слых. Ён усё прасіў, каб яму расказвалі пра канцлагер у Бярозе-Картузскай, пра Грамаду, пра страйкі-забастоўкі лесарубаў, пра здзек дэфензівы і асаднікаў, пра расстрэлы дэманстрантаў у Косаве, пакаранні правакатараў у Вільні, Слоніме, Беластоку. Купала адчуваў сябе ў даўгу перад гэтым народам, што сабраўся на свой гістарычны сход… Купала, як толькі першы раз пераехаў быўшую граніцу, адразу ж зразумеў, што ён не ведаў гэтага жыцця свайго народа — яго складу, яго духу. Праблемы сацыяльнага, нацыянальнага вызвалення тут былі тыпалагічна тыя ж, што ў дарэвалюцыйнай Беларусі, але формы выяўлення падобных жа сацыяльна-палітычных працэсаў былі ўжо іншыя. Спазнаць іх — да апошняй драбніцы! Спазнаць, бо без ведання іх які можна эпас напісаць — эпас вось гэтага народнага жыцця, якое толькі рэхам радыёхваль адбівалася ў яго мінскай хаце пад таполяй? Купала, Колас ведалі: і жыццё заходніх беларусаў павінна легчы старонкамі мастацкага летапісу беларусаў. Яны паміж сабой аб гэтым не гаварылі, ды кожны з іх аб гэтым напружана думаў, кожны сам па сабе таксама будучы героем легендарных зорных дзён зменлівай гіс-

торыі свайго народа…» (Алег Лойка. Выбраныя творы ў двух тамах. Т. 1. Мінск, 1992, с. 406–407).

Пасля вяртання ў Мінск, Якуб Колас пісаў рускаму літаратару Сяргею Гарадзецкаму: «Потрясающее, глубоко волнующее впечатление произвело это собрание. Мне никогда еще не случалось видеть такой съезд, такой народный сход, где бы с такой силой изливалась душа народа, его горькая обида, нанесенная подлыми, глупыми, спесивыми угнетателями… Меня также глубоко взволновало и то обстоятельство, что белорусский народ не забыл и своих певцов, меня и Купалу, и выразил нам громко свою признательность» (Якуб Колас. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Т. 13. Мінск, 1978, с. 191).

Другі раз Янка Купала наведаў Беласток у кастрычніку 1940 года. Яшчэ ў верасні таго года газета «Літаратура і мастацтва» паведамляла, што члены праўлення ССП БССР і група пісьменнікаў — Я. Купала, Я. Колас, М. Лынькоў, П. Броўка, К. Крапіва, П. Глебка, З. Аксельрод, М. Танк, П. Пестрак, Г. Камянецкі, М. Модэль, А. Кучар — на днях выязджаюць у Беласток, дзе будзе працягнута работа праўлення ССП БССР па прыёму лепшых пісьменнікаў заходніх абласцей, якія творча выявілі сябе, у Саюз савецкіх пісьменнікаў БССР. Некаторыя пісьменнікі ў Беласток выехалі на цягніку, а Купала з Коласам паехалі на машыне Коласа. Разам яны прынялі ўдзел і ў пасяджэнні выязной сесіі Акадэміі навук БССР у Беластоку, дзе абмяркоўваліся пытанні і праблемы развіцця культуры і эканомікі заходніх абласцей Беларусі. Пасля сесіі беларускія песняры сустрэліся са студэнтамі і выкладчыкамі Беластоцкага педінстытута. У маім хатнім архіве знайшлася згадка пра сустрэчу Коласа і Купалы ў Беластоцкім педінстытуце. Яе некалі мне даслаў краязнавец і музейшчык з Дзятлава Міхась Петрыкевіч

(1913–1999), тады студэнт гэтага інстытута. У пісьме Міхась Фёдаравіч прыгадваў наступнае: «Гэта было 14 кастрычніка 1940 года ў горадзе Беластоку. Я тады вучыўся ў Беластоцкім педінстытуце на літаратурным факультэце. Вялікай падзеяй у жыцці інстытута і маім асабістым жыцці была нечаканая першая сустрэча з Народнымі паэтамі Беларусі Янкам Купалам і Якубам Коласам. У Беластоку тады праходзіла выязная сесія АН БССР. На сесіі прысутнічалі і народныя песняры. Калі мы пра гэта даведаліся, то аднадушна вырашылі арганізаваць у інстытуце сустрэчу з паэтамі. Дырэкцыя інстытута падтрымала нашу ініцыятыву. На хуткую руку мы падрыхтавалі невялікі канцэрт, выпусцілі спецыяльны нумар насценнай газеты.

14 кастрычніка пад вечар дэлегацыя студэнтаў, сярод якіх быў і я, адправілася ў памяшканне, дзе праходзіла сесія. Калі літаратарам перадалі нашу просьбу, то яны адразу пагадзіліся з намі сустрэцца. Мы крыху пачакалі. І раптам з прэзідыума выйшлі народныя паэты, ветліва прывіталіся, і мы накіраваліся ў педінстытут. Нашаму шчасцю не было канца. Трэба было ісці не менш кіламетра, і ўвесь гэты час мы маглі свабодна гутарыць з любімымі паэтамі. Вечар быў цёплы і ціхі. Ападала лісце з ліп і каштанаў. Вясёлая грамада абступіла паэтаў, мы ішлі гурбою. Янка Купала ўвесь час жартаваў, а мы смяяліся.

Я ішоў побач з Якубам Коласам. Ён цікавіўся нашым мінулым, пытаўся адкуль мы родам. Калі даведаўся, што я з Наваградчыны, то сказаў: «Добра ведаю Наваградчыну. Слаўныя там людзі, прыгожая прырода. У мяне было многа блізкіх таварышаў з Наваградчыны».

Актавая зала была ўжо поўнай, калі мы прыйшлі. Паэтаў сустракалі дружнымі і доўгімі апладысментамі. Песняры раскланяліся, распрануліся і селі за стол прэзідыума. Кароткую прамову сказаў супрацоўнік

АН БССР Барысенка В. В., які суправаджаў паэтаў. Потым выступілі з чытаннем сваіх вершаў Янка Купала і Якуб Колас. Што яны чыталі — я ўжо не памятаю. Мы як зачараваныя слухалі іх, запаміналі міміку, жэсты. Асабліва запомнілася, што голас Якуба Коласа быў гучны і звонкі.

Паэты падзякавалі за цёплы прыём, пажадалі нам поспехаў у вучобе, напомнілі пра вялікую адказнасць настаўнікаў перад народам, пра тое, што заходнія вобласці чакаюць нас, каб ліквідаваць адсталасць народа, павысіць яго культуру.

У перапынку мы папрасілі падпісаць нам кнігі. Паэты разгубіліся, бо ў іх не было з сабой кніг. Калі ж яны даведаліся, што мы самі купілі іх кнігі, — ахвотна падпісалі на памяць аб сустрэчы некалькі дзесяткаў сваіх кніг. Янка Купала падпісаў мне свой зборнічак “Над ракой Арэсай”, а Якуб Колас — зборнік выбраных твораў.

Калі пачалася вайна, я вырваў тытульныя лісты з аўтографамі і насіў іх з сабой. Але на фронце, дзе я быў, яны згубіліся. Янку Купалу я больш ніколі ў жыцці не бачыў, а Якуба Коласа сустракаў некалькі разоў пасля вайны. Аднак першая сустрэча ў Беластоку была самая яркая, самая хвалюючая і запомнілася мне назаўсёды».

У той вечар Янка Купала чытаў студэнтам свае вершы «Калыханка», «З новай думкай», «Наша моладзь», «Час быў такі». І студэнты з радасцю слухалі Купалавы радкі:

З новай думкай, з новай песняй
Выйдзеш ты на нівы,
Беларусе, напрадвесні,
Браце мой цярплівы.
Засяваці будзеш зернем,
Як бурштын, адборным,
І ніхто цябе не зверне
Са шляхоў прасторных…

На другі дзень, 15 кастрычніка, Янка Купала назаўсёды пакінуў беларускі Беласток, і больш ніколі яму туды завітаць не прыйшлося.

Пасля Народнага сходу Заходняй Беларусі ў Беластоку Янка Купала 15 лістапада 1939 года вяртаўся ў Мінск. Па дарозе ён вырашыў заехаць у Слонім, дзе ў гэты час жыў беларускі паэт Гальяш Леўчык, каб сустрэцца з ім. «Шэўрале», на якім ехаў пясняр, спынілася на вуліцы 3 Мая (цяпер гэта вуліца Чырвонаармейская) каля невялікай хаткі № 73 (зараз яе ўжо няма, тут знаходзіцца Слонімскі аўтарамонтны завод). Убачыўшы Купалу, Гальяш моцна ўзрадаваўся. Яны абняліся, і гаспадар хаткі запрасіў госця ў свой пакой. Пасля гутаркі яны паехалі ў першы беларускі рэстаран, які знаходзіўся ў цэнтры Слоніма. Паабедаўшы за кошт Купалы (ён частаваў), Гальяш Леўчык паказаў, як праехаць на Мінск па Маставой вуліцы (цяпер гэта вуліца ў Слоніме носіць імя Янкі Купалы), і яны развіталіся. Больш сустрэцца ў жыцці Янку Купалу і Гальяшу Леўчыку не давялося.



Восень страсае лісце з дрэў,
Каб цёпла і мякка было беларускай зямлі…
Па якой мы ходзім.

## ПРАЕЗДАМ ПРАЗ ВАРШАВУ

Янка Купала ў першай палове XX стагоддзя вельмі хацеў пабываць у Варшаве і сустрэцца з беларусамі. Але, на вялікі жаль, такую магчымасць польскія ўлады яму ніколі не далі.

Жывучы ў Варшаве, беларускі паэт Гальяш Леўчык 27 чэрвеня 1907 года напісаў санет «Купалле» і прысвяціў яго Янку Купалу:

Як ранак загляне з-пад летняе ночы
Ды сонейка згоне ўсе сумныя хмары,
Пайду я дзівіцца у поле на чары,
Расою абмыю заплаканы вочы…
Пайду я у вёску пад шэрыя хаты,
Ўвайду сабе ціха пад мховыя стрэхі,
І буду збіраці дзявочыя смехі,
І буду вясёлы, і рад, і багаты!
Тагды — ўсіх дзяўчатак паслухаўшы думак,
Ля збожжа, ля кветак, пакрытых расою,
Пайду я да лесу зялёнай мяжою;
Пад голаў зλажыўшы дарожны мой клунак,
На мох пад хваіну я там палажуся
І ціха за край свой тагды памалюся!..

Гэта быў першы верш у беларускай літаратуры, прысвечаны народнаму песняру. Апублікаваны ён быў у зборніку Гальяша Леўчыка «Чыжык беларускі» на старонцы 34. Зборнік гэты лацінкай выйшаў з друку ў Вільні ў 1912 годзе пад рэдакцыяй таго ж самага Янкі Купалы. У 1914 годзе Гальяш Леўчык хацеў свайго «Чыжыка беларускага» выдаць кірыліцай. Свой зборнік з Варшавы ён даслаў у Вільню Янку Купалу. 7 лютага 1914 года Янка Купала адпісаў адказ: «Паважаны пане! Вашага “Чыжыка” аддалі ўжо друкаваць рускімі літарамі. Будзьце ласкавы прыслаць як найхутчэй клішэ вокладкі і Вашай фатаграфіі. Калі маеце зрабіць якія папраўкі, то прышліце папраўлены экземпляр. Астаюся са шчырай да Вас пашанай сакратар Беларускага выдавецтва Ів. Луцэвіч. P. S. Апошнюю карэктуру кніжкі прасілі б, каб Вы самі зрабілі. Ів. Л.» (Часопіс «Беларусь», 1973, № 2, с. 28).

Але «Чыжык беларускі» Гальяша Леўчыка кірыліцай не выйшаў, бо перашкодзіла гэтаму Першая сусветная вайна.

З Янкам Купалам сябравалі многія беларускія студэнты, якія ў першай палове XX стагоддзя вучыліся ў Варшаве. У прыватным архіве беларускай пісьменніцы Зоські Верас (1892–1991), якая жыла ў Вільні, усё жыццё захоўваўся ліст ад яе сябра, студэнта медыцынскага факультэта Варшаўскага ўніверсітэта Аркадзя Табэркі, які родам быў з вёскі Астроўна Магілёўскай губерні. 2 мая 1914 года Аркадзь па дарозе дамоў спыніўся ў Вільні. Адтуль ён напісаў Зосьцы Верас у Варшаву, што быў у Вільні і бачыўся з Янкам Купалам, які падараваў на памятку з аўтографам сваю кнігу «Шляхам жыцця».

У 1920-х гадах у Варшаве дзейнічаў Беларускі пасольскі клуб — нацыянальная дэпутацкая фракцыя ў сойме Польскай Рэспублікі. 7 чэрвеня 1925 года дзесяць сяброў Беларускага пасольскага клуба накіравалі Янку Купалу вітанне з нагоды 20-годдзя літаратурнай дзейнасці. Гэтае вітанне надрукавала газета «Савецкая Беларусь»: «Янка Купала. Інбелкульт. Мінск. Шчыра вітаем слаўнага песняра Беларусі з дваццатымі ўгодкамі літаратурнай працы. Няхай красуе муза твая пры тварэнні культуры на карысць працоўных масаў беларускага народу! Варшава. Сойм». Тэлеграму падпісалі Браніслаў Тарашкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Павел Валошын, Аляксандр Уласаў і іншыя беларускія дэпутаты сойму Польшчы.

Дарэчы, з Браніславам Тарашкевічам Янку Купалу ўдалося ўсё ж сустрэцца на цягніку ў Варшаве. Было гэта ў канцы кастрычніка 1925 года, калі народны паэт вяртаўся з Міхасём Чаротам з Берліна і з Прагі. Янка Купала хацеў затрымацца ў Польшчы на некалькі дзён, але польскія ўлады не дазволілі гэта зрабіць. Віленская газета «Жыццё беларуса» (1925, № 18) пісала:

«27 кастрычніка праз Варшаву праехаў, варочаючыся з Нямеччыны і Чэхаславаччыны, наш вялікі нацыянальны паэт Янка Купала. На просьбу яго аб дазволе спыніцца ў межах Польшчы на пару дзён і наведацца да Вільні польская ўлада адказала адмоўна, даўшы толькі транзітную візу (на праезд без права спыніцца)».

Праз Варшаву Янка Купала ехаў і летам 1927 года. З Мінска ён накіроўваўся ў Карлсбад, каб падлячыцца. І зноў польскія ўлады яму не дазволілі затрымлівацца на тэрыторыі Польшчы. «Нічога дзіўнага, што праезд Янкі Купалы ўлетку 1927 года па дарозе ў Карлсбад праз Заходнюю Беларусь стаўся значнай палітычнай падзеяй грамадскага жыцця прыгнечанай краіны. Нічога дзіўнага таксама, што польскі ўрад збаяўся дапусціць да сустрэчы паэта з народам», — згадваў у сваіх успамінах Валянцін Таўлай (Янка Купала. Мінск, 1952, с. 156).

Пра тое, што Янку Купалу не дазволілі спыніцца і сустрэцца з беларусамі Польшчы, напісалі многія беларускія выданні Польшчы і БССР. У хроніцы газеты «Наша праўда» ад 6 жніўня 1927 года паведамлялася: «У аўторак праз Варшаву праехаў, едучы з Мінска ў Карлсбад, наш найвялікшы пясняр Янка Купала. На вялікі жаль, нашаму песняру не ўдалося заехаць у Вільню: ён атрымаў ад польскіх уладаў візу без права затрымацца ў Польшчы». Віленская «Беларуская крыніца» (№ 33 ад 1927 года) таксама пісала: « Праезд Янкі Купалы праз Варшаву. У аўторак на мінулым тыдні найвялікшы наш пясняр Адраджэння Янка Купала, едучы з Менску ў Карлсбад (Чэхаславаччына) лячыцца (хворы на вантробы) праязджаў праз Варшаву. На жаль, польскія ўлады, даючы Купале візу (дазвол) на праезд, не дазволілі затрымлівацца ў Польшчы…»

Вяртаючыся з Чэхаславаччыны ў Менск, Янку Купалу ў Варшаве на чыгуначным вакзале ўдалося

пагутарыць з журналістам віленскай «Нашай працы». Журналіст тайком пранік у вагон да песняра і задаў яму пару пытанняў. Гэта гутарка была апублікавана ў «Нашай працы» (№ 2 за 1927 год). І хоць гутарка была надрукавана ў вельмі асцярожнай форме, кожнае слова Купалы аб навінах літаратурнага жыцця ў Мінску ўспрымалася як доўгачаканая, шматзначная вестка — польская цэнзура тады добра навучыла заходнебеларускага чытача разумець і паміж радкоў. Вось некалькі прыкладаў з той гутаркі.

Аб сваёй працы Янка Купала сказаў, што за апошнія часы ён даваў свае вершы ў «Полымя» і іншыя часопісы і газеты. «За вялікшыя рэчы, — сказаў Янка Купала, — я не браўся, бо быў заняты ўпарадкаваннем і пераглядам старых твораў, якія цяпер друкуюцца ў поўным сабранні іх. Пераклаў вось толькі прыгожую рэч з польскай мовы — адрывак з песні "O wojnie domowej" Бранеўскага…» «Перагляд і апрацоўка ўсяго гэтага матэр'ялу занялі вельмі многа часу і яшчэ зоймуць. А тут яшчэ і хвароба не дае працаваць!», — жаліўся Янка Купала. Аб творчасці іншых нашых паэтаў — між іншым аб згуртаваннях нашых паэтаў і літаратараў, аб якіх глухія весткі даходзілі ў Заходнюю Беларусь, — Янка Купала сказаў: «Творчасць Беларуская багата расцвітае. Працуюць, не пакладаючы рук, старыя пісьменнікі, ды нарасла цэлая маса новых. Вось, апошнія першыя заварушыліся, каб з'арганізавацца. Ужо гадоў пяць назад заснавалася арганізацыя нашае літаратурнае моладзі пад назвай "Маладняк". Яна ахапіла цэлы край і сотні маладых паэтаў. Праз нейкі час з "Маладняка" выдзелілася група "Узвышша", да якое са старэйшых пісьменнікаў далучыўся Змітрок Бядуля. Цяпер творыцца яшчэ адна група — "Пробліск"…» Далей Янка Купала расказаў пра справы выдавецкія, якія ў Заходняй Беларусі не дужа добрыя. Купала назваў некалькі

характэрных лічбаў, якія паказаліся заходнім беларусам проста казачнымі…

11 кастрычніка 1927 года газета «Савецкая Беларусь» паведаміла, што Янка Купала вярнуўся дамоў.



Мама — побач. Мама — жывая,
Вяжа шкарпэткі і рукавіцы маім сябрам,
Каб не замерзлі жыць.

## КАЗАНСКАЯ ССЫЛКА УЛАДЫСЛАВА ЧАРЖЫНСКАГА І ЯНКІ КУПАЛЫ

### Хто такі Уладыслаў Чаржынскі?

Уладыслаў Чаржынскі (1897–1974) — беларускі літаратуразнавец, крытык, лексікограф і педагог. Як падае біябібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі» (Т. 2. Мінск, 1993, с. 356), нарадзіўся ён на Беласточчыне. Пачатковую адукацыю атрымаў у народным вучылішчы. Скончыў Менскую гімназію і Белдзяржуніверсітэт. Працаваў настаўнікам на Лагойшчыне, а таксама выкладчыкам у Інстытуце беларускай культуры і ў Камуністычным універсітэце Беларусі. З 1922 года пачаў выступаць з крытычнымі і літаратуразнаўчымі артыкуламі ў беларускім друку. З 1925 года супрацоўнічаў з часопісам «Полымя».

Уладыслаў Чаржынскі пад сваім уласным прозвішчам, а таксама пад псеўданімамі Ул. Дзяржынскі і Улідзе друкаваў артыкулы, у якіх даваў грунтоўны эстэтычны аналіз як асобных мастацкіх твораў, так і літаратурнага працэсу ў цэлым. Многія яго матэрыялы, прысвечаныя творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа,

Змітрака Бядулі, Міхася Чарота, Цішкі Гартнага, Янкі Журбы і іншых беларускіх пісьменнікаў, уражваюць і сёння глыбінёй і жывасцю даследчыцкай думкі, аргументаванасцю і пластычнасцю стылю. Працы Уладыслава Чаржынскага каштоўныя сёння яшчэ і тым, што ў супярэчлівы і жорсткі час канца 1920-х гадоў у сваіх ацэнках ён кіраваўся эстэтычнымі крытэрыямі, а не вульгарна-сацыялагічнымі догмамі. Як пісаў літаратуразнавец Ігар Жук, «інтэнсіўнасць працы У. Чаржынскага здзіўляе і захапляе нават у кантэксце імклівага, бурнага літаратурнага развіцця маладой Беларусі. Артыкулы, якія па форме і па сутнасці нагадвалі манаграфічныя даследаванні, рэцэнзіі (а яны ахоплівалі не толькі літаратурныя з'явы і падзеі Беларусі, як Усходняй, так і Заходняй, але факты ўсесаюзнага літаратурнага жыцця), прадмовы, укладанні, апрацоўкі — і гэта ўсяго толькі на працягу нейкіх 6–7 гадоў вольнай дзейнасці. Вось паасобныя паведамленні ў тагачасным друку: "У. Чаржынскім збіраюцца матэрыялы аб жыцці і творчасці беларускага песняра М. Багдановіча. Ім жа падгатоўліваецца к друку поўны збор твораў М. Багдановіча" (Полымя, 1922, № 1). "Пры Правапісна-тэрміналагічнай камісіі ІБК зложана т. зв. Бюро адказных перакладаў, на чале якога вызначаны У. Чаржынскі. Бюро задаволіць патрэбы ўсіх дзяржаўных і грамадзянскіх інстытуцый па ўстанаўленні тых афіцыяльных тэкстаў на беларускай мове, патрэба ў якіх, як стала ўмеркаваных і правільна па-беларуску зложаных, вымагаецца самім жыццём» (Полымя, 1925, № 6). Тады ж "Полымя" друкуе курс лекцый па гістарычным матэрыялізме Л. І. Аксельрода ў перакладзе У. Чаржынскага. "Інстытут Беларускай культуры" (Менск, 1926) інфармуе: у першапачатковы склад ІБК увайшлі старшынёю — С. Некрашэвіч, сакратаром — У. Чаржынскі. Уваходзіў даследчык і ў

Правапісна-тэрміналагічную камісію, а таксама ў склад аргкамітэта па правядзенні Першай Беларускай Акадэмічнай канферэнцыі. Па даручэнні камісіі У. Чаржынскі разам з Я. Станкевічам рыхтуюць даклад "Правапіс чужых слоў". 19 лютага 1925 года ўтварылася літаратурная секцыя ІБК (40 сяброў), якая потым аб'ядналася з секцыяй беларускай мовы. Сакратар аб'яднанай секцыі — У. Чаржынскі. Ім жа апрацоўваліся матэрыялы па гісторыі беларускай літаратуры для кніг прафесара М. Янчука, Я. Барычэўскага, А. Вазнясенскага. А ў 1926 годзе даследчык падрыхтаваў і выдаў дапаможнік "Выпісы з беларускае літаратуры XIX – пачатку XX стагоддзя" (Полымя, 1997, № 12)».

Тут Ігар Жук памыліўся, бо дапаможнік «Выпісы з беларускае літаратуры» Чаржынскі складаў разам з Максімам Гарэцкім і Паўлам Каравайчыкам. Праўда, у Мінску ў 1928 годзе выйшла асобным выданнем праца Уладыслава Чаржынскага «Да пытання аб псіхалагічным стылі нашаніўскай паэзіі». І, як піша Аўген Калубовіч у сваёй кнізе «На крыжовай дарозе» (Мінск, 1994, с. 87), Чаржынскі з'яўляецца аўтарам «Слоўніка гісторыка-грамадазнаўчых тэрмінаў».

## Ссылка ў Казань

28 чэрвеня 1930 года Уладыслаў Чаржынскі быў арыштаваны ГПУ БССР па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Па пастанове Калегіі АГПУ СССР ад 10 красавіка 1931 года яго выслалі ў Казань тэрмінам на 5 гадоў. Праз 4 гады нашага земляка вызвалілі ад высылкі, але рэабілітавалі толькі ў 1988 годзе.

З Татарстана Уладыслаў Чаржынскі на Бацькаўшчыну не вярнуўся. Як вобразна сказаў Ігар Жук, «"жыць на мяжы бездані, не трапляючы ў яе", ён навучыўся ў Казані, працуючы выключна на выкладчыцкіх пасадах у

розных навучальных установах сталіцы Татарыі. Прорву, што ўтварылася за час “пяцігадовай высылкі”, а, як аказалася, пераступіць ён не асмеліўся. Іншая і родная сталіца — Менск — аказалася для яго абазначэннем хісткай лёсавырашальнай мяжы, якую, пераступіўшы аднойчы ў адзін бок, назад ужо не пераскочыш. Гэта было б вяртаннем у мінулае, а на этычным узроўні такое вяртанне для Чаржынскага не ўяўлялася магчымым» (Полымя, 1997, № 12).

Так, Уладыслаў Чаржынскі дамоў больш не вярнуўся. Але ці поўнасцю адышоў ён ад літаратурнай і крытычнай дзейнасці — цяжка сказаць. Тым не менш, беларускімі пісьменнікамі і літаратурай ён моцна цікавіўся і тады, калі 40 гадоў жыў у сталіцы Татарстана.

Нядаўна мне ўдалося адшукаць у архівах і музеях Казані цікавыя звесткі пра нашага таленавітага і забытага літаратуразнаўца. У архіве Казанскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта захоўваюцца дзве асабістыя справы Уладыслава Чаржынскага за 1933–1946 гады і 1950–1971 гады. Найбольш каштоўнымі дакументамі з’яўляюцца асабісты лісток па ўліку кадраў і характарыстыкі Чаржынскага, розныя загады, справаздачы і выпіскі, фотаздымкі і іншыя матэрыялы. Знойдзена таксама аўтабіяграфія нашага земляка, якая была напісана ім 27 красавіка 1943 года. Звернемся да яе. «Нарадзіўся я ў 1897 годзе ў былой Гродзенскай губерні Сакольскага павета, вёсцы Стара-Каменная ў сялянскай сям’і. У бацькі майго было 5 дзесяцін зямлі, якую ён апрацоўваў сам пры дапамозе сваёй сям’і. Пачатковую адукацыю я атрымаў у народным вучылішчы, пасля заканчэння якога паступіў у Гродзенскую казённую гімназію, дзе і вучыўся да 1914 года (пасля яе эвакуацыі перавёўся ў Менскую гімназію. — *С. Ч.*). Матэрыяльную дапамогу атрымліваў ад старэйшага брата, які знаходзіўся на заробках у Амерыцы. У 1915 годзе мая

радзіма была акупаваная нямецкімі войскамі. Я паехаў у Ленінград, дзе і працягваў сваю адукацыю. У 1917 годзе я пераехаў у Менск і да 1920 года працаваў хатнім настаўнікам у Вілейскім павеце. У 1921 годзе паступіў у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт на этнолага-лінгвістычнае аддзяленне, якое скончыў у 1925 годзе. У час вучобы ва ўніверсітэце працаваў у беларускім дзяржаўным выдавецтве і выкладаў на рабфаку ўніверсітэта. З 1925 года працаваў у якасці навуковага супрацоўніка ў Інстытуце беларускай культуры, а потым у Беларускай акадэміі навук. Адначасова выкладаў у Беларускім камуністычным універсітэце. У 1930 годзе я быў адміністрацыйна высланы з Менска ў горад Казань тэрмінам на пяць гадоў. У Казані з 1931 да 1935 года я працаваў метадыстам у Інстытуце павышэння кваліфікацыі настаўнікаў і ў Педагагічным інстытуце. З 1933 года па сумяшчальніцтве працаваў выкладчыкам у Казанскім дзяржаўным медыцынскім інстытуце (да 1936 года), а затым да 1940 года штатным выкладчыкам. З 1940 года штатную пасаду выкладчыка займаю ў казанскім дзяржаўным стаматалагічным інстытуце, а ў КДМІ працую па сумяшчальніцтве».

У медыцынскіх навучальных установах Казані Уладыслаў Чаржынскі выкладаў латынь, нямецкую і рускую мовы. Пра гэта гавораць розныя загады і выпіскі з загадаў кіраўнікоў навучальных устаноў Казані. А знойдзеная характарыстыка на выкладчыка кафедры замежных моваў Казанскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута Чаржынскага Уладыслава Вікенцьевіча дае поўнае ўяўленне, што гэта быў за выкладчык і чалавек наогул: «Чаржынскі У. В., які працаваў выкладчыкам Казанскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута з 1 верасня 1933 года і вызвалены з працы 1 снежня 1947 года, як сумяшчальнік, у сувязі з яго асноўнай працай у Казанскім дзяржаўным стаматалагічным

інстытуце, 1 верасня 1950 года быў зноў залічаны выкладчыкам Казанскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута, дзе і працуе па сённяшні час. Тав. Чаржынскі У. В., кваліфікаваны, вопытны і дысцыплінаваны педагог, адносіцца з любоўю і стараннасцю да сваёй работы. Прымае актыўны ўдзел у метадычнай рабоце кафедры, выступаў на пасяджэннях кафедры з дакладамі па пытаннях методыкі выкладання моў. Чаржынскі У. В. сістэматычна займаецца павышэннем свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню, актыўна ўдзельнічае ў занятках, якія арганізавалі для выкладчыкаў кафедры, хто самастойна вывучае гісторыю СССР. Пастаянна працуе над удасканаленнем сваёй вытворчай кваліфікацыі, прымае ўдзел у рабоце кафедры над складаннем дапаможнікаў па нямецкай мове для медыкаў. Сярод таварышаў па працы і студэнтаў тав. Чаржынскі У. В. карыстаецца заслужаным аўтарытэтам».

Сярод выяўленых дакументаў ёсць і цікавая выпіска з загада № 91 рэктара Казанскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута ад 19 мая 1967 года. У ёй гаворыцца, што ў «сувязі з 70-годдзем і 45-годдзем педагагічнай дзейнасці, з якіх 35 гадоў аддадзена падрыхтоўцы медыцынскіх кадраў у Стаматалагічным і Медыцынскім інстытутах Казані, за бездакорную творчую працу, чулыя і прынцыповыя адносіны да студэнтаў старшаму выкладчыку У. В. Чаржынскаму аб'явіць падзяку з занясеннем у асабістую справу. Падстава: прапанова заг. кафедры К. Л. Раскіна. Рэктар інстытута — прафесар Х. Хамітаў». Дарэчы, у той час у Казанскіх медыцынскіх навучальных установах працавала вельмі многа ўраджэнцаў Беларусі, асабліва шмат было яўрэяў. Той самы Канэль Раскін быў родам з-пад Оршы.

У чэрвені 1971 года наш зямляк напісаў на імя рэктара заяву з просьбай «вызваліць ад займанай пасады

ў сувязі з адыходам на пенсію». Яму ўжо было 74 гады. Рэктар задаволіў просьбу Чаржынскага.

У Казані Уладыслаў Чаржынскі пражыў яшчэ тры гады. Яго не стала 2 красавіка 1974 года. Пахаваны ён на казанскіх Арскіх могілках.

## Чаржынскі і Купала

У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы ў Мінску захоўваюцца купалаўскія запісы (адз. зах. 459–461) маскоўскіх і казанскіх тэлефонаў і адрасоў асоб, з якімі паэт быў звязаны па службовых і асабістых справах. Сярод адрасоў знаходжу і каардынаты Чаржынскага: «Чаржынскі. Держинского, 15, кв. 8».

У лістападзе 1941 года Янка Купала прыехаў у Татарстан і пасяліўся разам з Уладыславай Францаўнай непадалёк ад Казані ў пасёлку Пячышчы ў дырэктара мельзавода І. Я. Наякшына. Тут ён жыў і час ад часу наведваў Казань, дзе спыняўся ў гасцініцы «Татарстан». З Наякшынымі Купала шчыра сябраваў, яны разам нават сустракалі 1942 год на кватэры Юдзіных у г. Верхнім Услоне.

Янка Купала выступаў на мітынгах, па радыё, з дакладамі сярод беларускай і татарскай інтэлігенцыі, пісаў вершы і прадмовы. Заходзіў ён у госці і да сям'і Чаржынскіх. Дарэчы, жонкаю Уладыслава Чаржынскага была родная сястра Змітрака Бядулі — Рэня Плаўнік. У іх нарадзіліся дзеці — Вітаўт і Рагнеда. Нядаўна я адшукаў Рагнеду Чаржынскую-Маслоўскую, яна жыве ў Сочы.

З Уладыславам Чаржынскім Янка Купала ў Казані шмат гутарыў, яны вялі размовы пра вайну, пра 1920–1930-я гады і рэпрэсіі, а таксама пра літаратуру.

4 мая 1942 года Янка Купала зноў сустрэўся з сям'ёй Чаржынскіх, якая наведала яго ў Пячышчах. Песняр

падараваў Чаржынскім сваю кнігу вершаў і паэм «От сердца», што выйшла на рускай мове ў Маскве. На кнізе Купала напісаў «Дарагім Чаржынскім на памяць. Янка Купала. Пячышчы. 4.V.1942».

18 чэрвеня Янка Купала пакінуў Татарстан і прыехаў у Маскву, дзе праз 10 дзён трагічна загінуў у гасцініцы «Масква».

## Уладыслаў Чаржынскі — крытык і літаратуразнавец

Максім Гарэцкі ў сваёй «Гісторыі беларускай літаратуры» напісаў: «Літаратурная крытыка развівалася ў нас ужо ў нашаніўскую пару (М. Багдановіч, Л. Гмырак — забіты на вайне ў 1915 годзе, А. Навіна, В. Ластоўскі і інш.). Цяпер яна ўсходзіць на больш падрыхтаваны і навуковы грунт (М. Піятуховіч, У. Дзяржынскі і інш.)». У. Дзяржынскі, Улідзе — гэта псеўданімы Уладыслава Чаржынскага. Пад гэтымі псеўданімамі наш зямляк выступаў з крытычнымі артыкуламі ў розных беларускіх выданнях у 1920-я гады.

У 1928 годзе ў Мінску асобным выданнем выйшла праца Уладыслава Чаржынскага «Да пытання аб псіхалагічным стылі нашаніўскай паэзіі». Але яна спачатку была надрукавана ў сакавіцкім нумары часопіса «Узвышша» ў 1928 годзе. Перачытаў я нядаўна гэты матэрыял. Ён сапраўды заслугоўвае ўвагі. Бо ў ім крытык выступіў супраць таго, што пісалі, напрыклад, Піятуховіч, Замоцін, якія адзначалі, што «скептыкам і пэсымістым выступае перад намі і Максім Багдановіч… Раней, Колас любіў сьпяваць супакой прыроды: ён любіў, падобна Цютчаву, Мэдэрлінку, прыслухоўвацца да начное цішыні, бо раненае сэрца патрабуе цішыні і спакою». Чаржынскі ім адказвае: «Наадварот, Я. Колас — пясняр буры, навальніцы, грому, бліскавіц. Ні ў

кога з беларускіх паэтаў гэтыя грозныя з’явы прыроды не знайшлі такога мастацкага выяўлення, як іменна ў Якуба Коласа» («Узвышша», 1928, № 3, с. 128). Чаржынскі праналізаваў некалькі вершаў Якуба Коласа і прыйшоў да высновы, што «смутная настраёвасць коласаўскай лірыкі асабіста інтымных перажыванняў нічога супольнага не мае з філасофскай сістэмай песімізму» (тамсама, с.138). Можа крытык і перабольшваў, калі сцвярджаў, што наша літаратура самая жыццесцвярджальная з літаратур таго часу, але, як піша Ігар Жук,«унутраны аптымістычны пафас яе Чаржынскі адчуваў амаль бездакорна» (Ігар Жук. Сустрэчны рух. Гродна, 1998, с. 44).

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (Ф. 205, воп. 3, спр. 8909) нядаўна выявіў заяву У. Чаржынскага, якую ён пісаў у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт: «Гэтым прашу залічыць мяне сталым слухачом на этналагічна-лінгвістычны аддзел факультэту грамадзянскіх навук Беларускага дзяржаўнага універсітэта па цыклу беларускае мовы. Скончыў у 1918 годзе 7 класаў мужчынскай гімназіі Фальковіча й Зубакіна ў Менску.У 1918–1919 гадах працаваў як настаўнік у вячэрняй школе для дарослых, якая была арганізавана мною ж у м. Пасадцы Вілейскага павета. Адначасна з гэтым даваў прыватныя лекцыі ў розных класах сярэдняй школы. У 1920 годзе з прыходам на Беларусь савецкае ўлады зрабіўся сталым супрацоўнікам штодзённае газеты “Савецкая Беларусь”, у якой працую й да апошняга часу…»

Сапраўды, працуючы ў «Савецкай Беларусі», Уладыслаў Чаржынскі публікуе тут свае артыкулы на розныя тэмы. Да 5-годдзя часопіса «Полымя» з’яўляецца матэрыял «Літаратурная трыбуна» («Савецкая Беларусь», 1926, 25 снежня). У нумары «СБ» ад 16 траўня 1925 года крытык разважае аб праблемах беларускае

мастацкае культуры ў міжнародным кантэксце, аб тым, што наша тагачасная літаратура ўнесла ў скарбніцу агульнаеўрапейскай літаратуры, які сацыяльны клас пераважна знайшоў у ёй свой адбітак. На думку У. Чаржынскага, «матывы нацыянальнага і сацыяльнага змагання ў сваім найдасканальшым сінтэзе разгарнуты ў беларускай літаратуры з такой глыбінёй і мастацкай эмацыянальнасцю, што яны чырвона-агністымі бляскамі мігацяць на агульна літаратурным еўрапейскім фоне». І вялікая заслуга ў гэтым, сцвярджае крытык, і з ім нельга не пагадзіцца, Янкі Купалы. «Янка Купала — выдатнейшы карыфей беларускае літаратуры, які так нядаўна яшчэ быў як бы ўвасабленнем усёй нашай паэзіі, — з'яўляецца адначасна піянерам найноўшага беларускага пісьменства», — пісаў наш зямляк. «Калі Гамер, Дантэ, Шэкспір, Байран, Гётэ, Міцкевіч, Пушкін і іншыя, — сцвярджае Уладыслаў Чаржынскі, — выяўлялі ў сваіх творах пераважна волю да жыцця чалавека наогул, то Янка Купала з найвялікшым мастацтвам праяўляе не толькі ў сваёй творчасці, але самой сваёй постаццю песняра-мужыка волю да жыцця працоўнага эксплуатаванага селяніна, беларускага селяніна. У гэтым іменна розніца, у гэтым самабытнасць, у гэтым і веліч Янкі Купалы, а побач з ім і беларускае паэзіі, у параўнанні з паэзіяй і паэтамі агульна-еўрапейскай культуры».

Акрамя «Савецкай Беларусі» наш літаратуразнавец і крытык шмат друкуецца ў часопісах «Полымя», «Узвышша», «Асьвета». У 1925 годзе ў Мінску выйшаў з друку зборнік паэзіі Янкі Купалы «Безназоўнае». У «Полымі» адразу з'яўляецца невялікая нататка Чаржынскага пра гэты зборнік, падпісаная псеўданімам Улідзе. Крытык піша: «Цэнтральным месцам зборніка з'яўляецца паэма "Безназоўнае". Гэтая паэма заслугоўвае асаблівае ўвагі не толькі з боку мастацкага, але і з

боку ідэалагічнага. У ёй Купала дае рэльефны нарыс нашай рэвалюцыйнай эпохі, адцяняючы яе на фоне таго недалёкага мінулага, якое перажывала працоўная Беларусь… Апрача паэмы ў зборніку бачым вязанку вершаў, напісаных у апошнія гады. Усе гэтыя вершы як сваёй ідэалогіяй, так і новымі мастацкімі хварбамі і настроямі падобны на "Безназоўнае" і з'яўляюцца як бы прэлюдыяй да паэмы» («Полымя», 1925, № 2, с. 200–201).

У першых нумарах часопіса «Полымя» за 1925 год Уладыслаў Чаржынскі друкуе вялікі свой артыкул нарысаў і нататкаў «Беларуская літаратурная сучаснасць». Рэдакцыя часопіса нават зрабіла зноску, што з некаторымі вынікамі і думкамі аўтара не пагаджаецца. Тым не менш, артыкул быў апублікаваны. У ім літаратуразнавец таксама звяртаецца да творчасці Янкі Купалы. У сваёй працы крытык пытаецца: чаму на працягу 1920–1921 гадоў маўчыць Купала? Што такое сталася з песняром? І адразу дае адказ, што ў снежні 1921 года на старонках «Вольнага Сьцягу» з'яўляецца Купала «Песняй аб паходзе Ігара». «"Песня", — піша Чаржынскі, — гэта закончаная музыкальная сімфонія, кожная частка якой пяе дзіўную мелодыю, кожная струна якой гучыць самабытнымі тонамі, а ўсё разам зліваецца ў нязвычайнай чароўнай гармоніі. З гэтага боку "Песня" з'яўляецца запраўдным шэдэўрам беларускае найноўшае паэзіі» («Полымя», 1925, № 1, с. 148). Далей крытык разглядае зборнік вершаў Янкі Купалы «Спадчына», куды ўвайшлі вершы песняра, напісаныя ім у 1906–1918 гадах, а таксама драму «Тутэйшыя», напісаную ў 1922 годзе, апублікаваную — у 1924-м, а зместам скіраваную да 1918–1920 гадоў. Пра «Тутэйшых» Чаржынскі кажа, што «п'еса можа не спадабацца як прыхільнікам артадаксальнага рэалізму (натуралізму), так і прыхільнікам літаратурнага мадэр-

ну. Рэалісты будуць нездаволены тым, што ў п’есе не ўсё жыве, што ў п’есе больш рэзанёрства, чымся жывой дзеі, што ў п’есе залішне карыкатуры, што ў п’есе залішне штучнага. З другога боку можа быць той закід, што п’еса замала эмацыянальна, што п’еса ўбога глыбокімі калізіямі, што п’еса пабудавана на павярхоўных водрухах людскіх пачуццяў, урэшце, што п’еса замала сцэнічна. Але ўсе гэтыя заганы будуць заганамі чыста ўмоўнымі, залежна ад таго пункту погляду, з якога падходзяць да гэтае п’есы. Нам здаецца, што ў п’есе трэба шукаць іншага…» (тамсама, с.151–152). Уладыслаў Чаржынскі добра ведаў, што трэба шукаць у п’есе, каму яна прысвечана, пра каго яна і для каго… Абагульняючы творчасць Янкі Купалы ў 1920-я гады, наш зямляк прыйшоў да наступных высноваў:

«1. Ліра песняра не маўчыць, а адгукаецца на найважнейшыя падзеі гэтае сучаснасці; а калі адгукаецца яна не так часта, як гэтага нам хацелася б, то ў гэтым пункце мы павінны памятаць, што маем дачыненне з мастацтвам, г. зн. такой катэгорыяй, якая не падлягае матэматычным вымерам і якая пакуль што не жыве паводле календара, хоць бы нават савецкага.

2. Літаратурныя выступленні песняра не былі дысанансам эпосе, а наадварот, як нельга лепш гарманізавалі з гэтай эпохай.

3. Перастроеная на сучасны лад (“Безназоўнае”), ліра песняра не ўтраціла сваёй ранейшай моцы, а гучыць так жа пераможна, як і раней, і мае нават тэндэнцыю заглушыць хоры новага літаратурнага рэчышча.

4. Паэт застаўся верным сабе і пры новых акалічнасцях, грунтуючыся ў сваёй творчасці на аб’ектыўнай рэальнасці і выступаючы, як раней, пад літаратурным знакам мастацкага рэалізму (павевы неакласіцызму ў “Тутэйшых” не запярэчваюць гэтага, бо неакласіцызм бліжэй да рэалізму, чымся да рамантыкі). Усё гэта свед-

чыць аб тым, што Я. Купала і ў паслякастрычнікавай сучаснасці (асабліва пачынаючы з 1924 г.) становіцца вельмі значным фактарам прагрэсу ў беларускім літаратурным мастацтве» (тамсама, с. 153).

Уладыслаў Чаржынскі шмат пісаў і пра Якуба Коласа. «Новую зямлю», «Сымона-музыку» і «У палескай глушы» ён назваў манументальнымі творамі беларускай літаратуры. Крытык паказаў тое адметнае, новае, што з'явілася найперш у Коласа-празаіка. А гэта дасканаласць і віртуознасць партрэтнага жывапісу, разумеючы апошняе даволі шырока — не толькі як апісанне знешняга партрэта, але і як выяўленне характару. Мае рацыю Міхась Мушынскі, які адзначае, што Чаржынскі «параўноўвае аповесць з партрэтнай галерэяй, праз якую праводзіць аўтар "зачараванага і захопленага чытача", раскрываючы яму багацце і разнастайнасць чалавечых тыпаў-характараў» (Міхась Мушынскі. Беларуская крытыка і літаратуразнаўства (20–30-я гады). Мінск, 1975, с. 166).

Пра Якуба Коласа Уладыслаў Чаржынскі напісаў вялікі крытычна-біяграфічны нарыс, які быў змешчаны ў першым томе Збору твораў Якуба Коласа, што пабачыў свет у Мінску ў 1928 годзе. «"Сымон-музыка" — гэта не толькі пышны цвет паэтыцкае індывідуальнасці: гэта пышны цвет беларускае паэзіі як мастацтва», — сцвярджае наш крытык.

Вельмі моцна Уладыслаў Чаржынскі абараняе Якуба Коласа, Змітрака Бядулю і Янку Купалу, аналізуючы працу «Беларусы» Яфіма Карскага ў «Полымі» за 1923 год. Ён аб'ектыўна ўказвае на сур'ёзныя недакладнасці Карскага, які ў трэцім томе стараецца паказаць гісторыю беларускай літаратуры, пачынаючы з XIX стагоддзя, а таксама апісаў беларускі культурна-нацыянальны рух. «Незразумелым для нас з'яўляецца той метад, паводле якога аўтар размясціў у гэтым раз-

дзеле пісьменнікаў, — піша Уладыслаў Чаржынскі. — Калі аўтар трымаўся метаду літаратурнай магутнасці, то чаму паставіў Цётку раней Я. Купалы, Альберта Паўловіча, Г. Леўчыка, К. Буйло раней Бядулі-Ясакара, які бязумоўна па літаратурнай вартасці, і па колькасці ім напісанага стаіць бязмерна вышэй за іх? Калі ж аўтар трымаўся храналагічнага прынцыпу, то чаму Альберт Паўловіч, Ядвігін Ш. апынуліся пасля М. Багдановіча, К. Буйло і г. д.? А калі аўтар размяшчаў пісьменнікаў паводле арганічнай сувязі і сваенства матываў, стылю, крыніц творчасці і г.д., то чаму за М. Багдановічам пастаўлены А. Паўловіч, З. Жылуновіч, Ядвігін Ш., а не Бядуля-Ясакар, які, бязумоўна, як стылем, так і матывам і бліжэй да М. Багдановіча, чымся яны» («Полымя», 1923, № 2, с. 113–114).

«Плавнику принадлежить и несколько прозаических статей», — піша Я. Карскі ў «Белорусах». Чаржынскі рэагуе на гэта імгненна: «Гэтак адзываецца акадэмік Е. Ф. Карскі аб пісьменніку, якога вядома нам у друку да 80 апавяданняў, агульным аб'ёмам каля 40–50 друкаваных аркушаў. І гэта некалькі "прозаических статей". Нечага сказаць, добрая рэгістрацыя паэтычных матэрыялаў…» (тамсама, с. 123). І такіх заўваг крытык прыводзіць вельмі шмат. Таму ён, прачытаўшы трэці том «Белорусов», заявіў, што кніга Карскага «дзякуючы сваёй павярхоўнасці вельмі мала дасць новага для тых, хто больш-менш знаёмы з гісторыяй беларускае літаратуры і з гісторыяй беларускага нацыянальна-адраджэнцкага руху» (тамсама, с. 132).

У вераснёўскім нумары часопіса «Полымя» за 1928 год Уладыслаў Чаржынскі апублікаваў артыкул «Дзейнасць З. Жылуновіча ў абсягу беларускай літаратурнай крытыкі». Артыкул быў вельмі актуальны на той час, і сёння ён не страціў сваёй гістарычна-літаратурнай фактуры. Як мы ведаем, сам Цішка Гартны

(Зміцер Жылуновіч) пісаў вельмі шмат: апавяданні, вершы, раман, літаратурныя агляды, крытычныя манаграфіі, крытычна-палемічныя артыкулы, рэцэнзіі і г. д. Менавіта на характарыстыцы некаторых жанраў крытыкі Цішкі Гартнага спыніўся У. Чаржынскі. Ён не толькі зрабіў вычарпальны агляд дзейнасці З. Жылуновіча ў кантэксце беларускай літаратурнай крытыкі, але паспрабаваў класіфікаваць яго крытычныя працы як з боку ідэалагічна-метадалагічных прынцыпаў, так і з боку літаратурнай формы і стылю. Падобная праца ў беларускай літаратуры тады была новай і даволі нялёгкай. І яе наўрад ці хто змог бы адужаць. Хіба што толькі Чаржынскі.

Часопіс «Узвышша» ў травеньскім нумары за 1929 год публікуе вялікі матэрыял нашага земляка, які называецца «“Нарысы гісторыі беларускае літаратуры” праф. М. М. Піятуховіча». Сапраўды, прафесар Міхайла Піятуховіч (1891–1937) у 1928 годзе выдаў першую частку сваіх «Нарысаў…». Іх уважліва прачытаў Уладыслаў Чаржынскі і на старонках папулярнага тады часопіса выказаў свае думкі і заўвагі. І яны даволі слушныя. Напрыклад, У. Чаржынскі піша: «Вось якую характарыстыку дае, напрыклад, праф. Піятуховіч В. Д. Марцінкевічу на балоне 73-й “Нарысаў”: “Узятая ў цэлым творчасць Дуніна-Марцінкевіча ўяўляе сабой яскравы прадукт патрыярхальна-дваровай культуры, амаль зусім не зачэпленай уплывамі капіталізму”. Гэта формула, супярэчачы гістарычнай рэчаіснасці, не можа даць адказу на асноўныя пытанні, што ўзнікаюць навокал творчасці названага пісьменніка. Чым, напрыклад, вытлумачыць тую з’яву, што ўся творчасць Д. Марцінкевіча з’яўляецца як бы псіха-ідэалагічным клеем, якім пісьменнік тужыцца склеіць сялянства і шляхту, як не распадам прыгоннае гаспадаркі? Чым вытлумачыць гэтае заахвочванне селяніна да шчырае працы, якое

мы бачым бадай у кожным творы Марцінкевіча, як не простым рэзультатам невыстарчальнай прадукцыйнасці сялянскае працы ў перыяд менавіта распаду прыгоннае гаспадаркі?» і г. д. і г. д. У гэтым артыкуле Чаржынскі зрабіў некалькі заўваг і наконт трактоўкі ў «Нарысах» М. Піятуховічам паэзіі Францішка Багушэвіча і творчасці некаторых іншых класікаў беларускай літаратуры.

Вельмі добра крытык У. Чаржынскі сказаў пра беларускага гісторыка Уладзіміра Пічэту. Напрыклад, у аглядзе часопіса «Вестник Народного Комиссариата Просвещения ССРБ» (1923, кастрычнік–лістапад) у лютаўскім нумары часопіса «Полымя» за 1923 год ён піша: «Як мы бачым, гісторыка-беларуская навука мае ў асобе У. Пічэты вельмі здольнага і, адначасна з гэтым, вельмі шчырага прыхільніка».

Вельмі цёпла наш зямляк у сваіх літаратурных творах адгукаўся пра Украіну і творчасць яе пісьменнікаў. У 1924 годзе выйшаў з друку зборнік вершаў «Вітер з України» Паўло Тычыны. Пад псеўданімам Улідзе «Полымя» друкуе рэцэнзію У. Чаржынскага на гэты зборнік. Яна пачынаецца так: «Вецер з Украіны, Украіны так блізкай нам, беларусам, на жаль так рэдка далятае да нас, так рэдка кудзёрыць верхавіны беларускага бору! А шкада! Гэтулькі ў гэтым ветры нам роднага, прачулага, а разам з тым, гэтулькі ў ім моцы й чараў, самабытнасці і крыштальнай прамяністасці. Вязанка вершаў П. Тычыны “Вітер з України” можа найвыпукней увасабляе сабою гэты ўкраінскі вецер…» («Полымя», 1925, № 1, с. 179–180). Далей наш крытык не шкадуе шчырых братэрскіх слоў і пачуццяў, ён проста ў захапленні ад творчасці паэта, калі піша, што «П. Тычына — адзін з найвялікшых сучасных украінскіх паэтаў», што «музыкі ў паэзіі П.Тычыны — як сонца ў роснай зелені летнім ранкам», што «лірыка П. Тычыны — наскрозь шчыра-пачуццёва»…

Гэта мая толькі невялікая вандроўка па старонках твораў Чаржынскага-крытыка. Пасля яе я ўпэўніўся, што беларусы ў 1930 годзе страцілі вельмі таленавітага, разважлівага і аб’ектыўнага крытыка. На вялікі жаль, сёння ў беларускай літаратуры крытыка маштабу Чаржынскага я нават і не магу назваць. Але павучыцца пісаць і аналізаваць творы нам сёння ёсць у каго. Толькі гэтыя крытычныя артыкулы і даследаванні нашага земляка раскіданы па выданнях 1920–1930-х гадоў. Прыйдзе час — і мы збярэм спадчыну Уладыслава Чаржынскага і выпусцім асобнай кнігай.



Да Волі іду праз дождж,
Праз туман, снегапад і вецер…
Усё жыццё да Волі іду.

## ПРА АЛЯКСАНДРА ВАЗНЯСЕНСКАГА, ЯКІ ПІСАЎ ПРА КУПАЛУ І КОЛАСА

Пра літаратуразнаўца, доктара філалагічных навук, прафесара Аляксандра Вазнясенскага (1988–1966) ёсць згадка ў Беларускай энцыклапедыі (Т. 2. Мінск, 1970, с. 556) і ў біябібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі» (Т. 1. Мінск, 1992, с. 297). Сціплая згадка аб тым, дзе ён нарадзіўся, што скончыў, дзе працаваў, аб чым пісаў. Але гэтых звестак мала, каб расказаць пра чалавека, які ўнёс значны ўклад у гісторыю беларускага літаратуразнаўства. Тым больш, што пражыў ён у Беларусі толькі 10 гадоў.

Нарадзіўся Аляксандр Вазнясенскі (Узнясенскі, Узнесянскі) у Сімбірскай губерні ў Расіі. Пасля заканчэння ў 1913 годзе славяна-рускага аддзялення гісторыка-філалагічнага факультэта Варшаўскага

ўніверсітэта атрымаў там магчымасць навуковай падрыхтоўкі да прафесарскага звання. Але Першая сусветная вайна прымусіла памяняць месца жыхарства, а таксама ўсе свае жыццёвыя планы. Спачатку ён працуе асістэнтам, прыват-дацэнтам гісторыка-філалагічнага факультэта Растоўскага ўніверсітэта, а калі ў 1921 годзе быў адкрыты Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Аляксандр Вазнясенскі прыехаў у Менск. Сюды яго запрасіў першы рэктар БДУ Уладзімір Пічэта.

У Менску Аляксандру Вазнясенскаму працавалася добра. Спачатку ён быў дацэнтам, а з 1927 года стаў прафесарам. Хутка вывучыў беларускую мову, шмат чытаў твораў беларускіх аўтараў, з многімі літаратарамі быў знаёмы асабіста, часта сустракаўся, сябраваў. Вясной 1926 года, калі пачаў вывучаць творчасць Янкі Купалы, быў запрошаны песняром на кватэру на Кастрычніцкую вуліцу. «Я быў у яго каля дзвюх гадзін, — згадвае Вазнясенскі ў зборніку «Янка Купала» (Мінск, 1952, с. 85). — Увесь час быў запоўнены ажыўленай размовай на літаратурныя тэмы. Гутарка пачалася з Лермантава, выданне якога (1814–1915 года, пад рэдакцыяй В. В. Калаша) ляжала на стале разам з другімі кнігамі ў некаторым, як кажуць, “лірычным” непарадку. Іван Дамінікавіч адразу пачаў гутарку аб рускім паэце. Ён выказаў захапленне ім, звярнуўшы ўвагу на станоўчыя здабыткі яго творчасці… Купала адзначыў пратэстны пачатак у паэзіі Лермантава і, гаворачы аб гэтым, закрануў у той жа сувязі Пушкіна і Някрасава. Затым размова перайшла да класікаў сусветнай літаратуры. Былі згаданыя імёны Шэкспіра, Шылера, Гётэ, Байрана, Беранжэ, Міцкевіча і шмат іншых. Я выйшаў ад беларускага паэта і быў здзіўлены яго надзвычай шырокім літаратурным кругаглядам, яго глыбокім веданнем літаратуры, яго ўменнем разумець сутнасць і значэнне кожнага мастака. Маё наведванне засталося незабыўным».

У 1920-х гадах Аляксандр Вазнясенскі шмат друкуецца. У часопісах «Полымя», «Узвышша», «Крывіч», «Маладняк», у «Працах БДУ» ён аналізуе творчасць Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, даючы параўнальна-тыпалагічную характарыстыку іх творчасці ў кантэксце еўрапейскіх літаратур. У часопісе «Полымя» за 1929 год літаратуразнавец публікуе сваё вялікае даследаванне «Ля вытокаў мастацкай прозы Якуба Коласа». У ім крытык прааналізаваў стыль аўтара, вывучыў яго мастацкую мову, умела параўнаў прозу Коласа з прозай Тургенева, Гогаля, Дастаеўскага. «У галіне стылю эмацыянальнага псіхалагічнага, — піша Аляксандр Вазнясенскі, — наш пісьменнік больш блізкі да традыцый рамантычнай творчасці. Яго мастацкая мова ў гэтым выпадку пераважна рамантычная» («Полымя», 1929, № 3, с. 137).

Працуючы ў Белдзяржуніверсітэце, А. Вазнясенскі даследаваў гісторыю беларускага тэатра, а таксама беларускі тэатр 1920-х гадоў. Сам крытык прымаў актыўны ўдзел у рабоце тэатральнай падсекцыі Інбелкульта, добра ведаў тагачаснае тэатральнае жыццё. Як адбітак з часопіса «Узвышша» ў 1927 годзе выходзіць яго праца пра беларускі тэатр 1921–1926 гадоў, а ў 1930 годзе ў красавіку «Маладняк» публікуе яго артыкул «Перспектывы сучаснага беларускага тэатра». У чэрвеньскім нумары часопіса «Узвышша» за 1929 год надрукавана цікавае даследаванне Аляксандра Вазнясенскага «Другі Беларускі драматычны тэатр». Яно пачыналася так: «Другі Беларускі дзяржаўны тэатр, як пэўная арганізацыя, утварыўся арганічна з першай беларускай мастацкай студыі, што нарадзілася ў 1921 годзе ў Менску і праходзіла свой курс вывучэння тэатральнага мастацтва ў Маскве. Студыя скончыла свае заняткі вясною 1926 года, а з восені ў тым жа годзе яна была дэкрэтам Наркамасветы Беларусі ператворана

ў Другі Беларускі дзяржаўны тэатр… Першай п'есай, што была сцэнічна, як мае быць, распрацавана і паслужыла грунтам для драматычнага рэпертуару другога тэатра, была народная драма "Цар Максіміллян". Уся праца, звязаная з пастаноўкай, была праведзена калектывам студыйцаў з вялікім творчым уздымам. Гэтая п'еса ў Беларусі, шырока папулярная ў народных гушчах, была вядома кожнаму студыйцу. Тэкст гэтае п'есы, яе музычныя нумары, гарнітуры, дэкарацыі і ўсе іншыя прыналежнасці паказу былі выпрацаваны самымі артыстамі-студыйцамі і з'яўляюцца вынікам творчай працы ўсяго калектыву. Першае выступленне беларускай студыі перад публікай з гэтаю драмаю было ў Маскве ў траўні 1924 года. Яе паказ, выкананы ў канструкцыйным стылі, быў спатканы пахвальнымі водгукамі маскоўскага друку. У Менску гэтая драма ўпершыню была паказана ў чэрвені таго ж 1924 года, але спаткана гледачамі даволі стрымана, выклікаўшы шмат гутарак і спрэчак. Правінцыяльная публіка, выхаваная на традыцыях старога бытавога тэатра, маючы прывычку да рэальных пастановак, вядома, прычынілася скептычна да новых тэатральных накіраванняў, што пранікла ў гэты час у тэатральнае мастацтва…» («Узвышша», 1929, № 6, с. 96–97).

Далей даследчык расказаў пра станаўленне гэтага калектыву, прааналізаваў яго рэпертуар, рэжысёрскае і акторскае майстэрства, сцэнаграфію, спыніўся на п'есах В. Шашалевіча «Апраметная», А. Глобы «Астап», М. Грамыкі «Каля тэрасы» і іншых драматургаў і некаторыя крытычна ацаніў.

У 1930 годзе прафесару Вазнясенскаму ГПУ БССР загадвае пакінуць тэрыторыю Беларусі. У гэты час быў арыштаваны ў Менску і літаратуразнавец, крытык, педагог Уладыслаў Чаржынскі. Чаржынскага высылаюць у ссылку ў Казань, а Вазнясенскага ў Маскву.

У Маскве Аляксандр Вазнясенскі ўладкаваўся на працу ў Маскоўскі гарадскі педагагічны інстытут, пасля ў Маскоўскі інстытут кінематаграфіі, а потым працаваў у Народным камісарыяце цяжкай прамысловасці.

У 1934 годзе ў Менску арыштоўваюць прафесара Івана Замоціна, які добра ведаў амаль усю мясцовую творчую інтэлігенцыю, у тым ліку і Вазнясенскага. Замоцін не вытрымлівае цяжкіх допытаў і дае паказанні пра міфічную арганізацыю «Руская нацыянальная партыя», да якой нібыта належалі ён сам і іншыя навукоўцы, сярод якіх быў і Аляксандр Вазнясенскі. Івана Замоціна хутка адпускаюць, а Вазнясенскага ў 1934 годзе арыштоўваюць у Маскве. У сваіх паказаннях у 1956 годзе Вазнясенскі пісаў: «Когда я был арестован в 1934 году в Москве вместе с академиками Перетцем и Сперанским, мне зачитали показания Замотина, который называл меня монархистом… После долгих истязаний, применяемых ко мне, я вынужден был дать показания на Замотина… Замотин пострадал благодаря своей слабохарактерности и трудности…» («СБ», 19 студзеня 2007 г.).

Пацярпеў і Вазнясенскі. Пасля арышту яго накіроўваюць у Ташкент, дзе літаратуразнавец пражыў цэлых 5 гадоў. За гэты час ён паспеў наладзіць сувязь з беларускім крытыкам і літаратуразнаўцам Уладыславам Чаржынскім, які ўжо некалькі гадоў жыў і працаваў у Казані. Знаёмыя яны былі яшчэ з 1920-х гадоў, калі жылі ў Менску. Магчыма, Чаржынскі дамовіўся з працаю і паклікаў Вазнясенскага з Ташкента ў Казань. Ды і жылі яны пазней на адной вуліцы Дзяржынскага ў Казані: Чаржынскі — у доме № 15, кв. 8, Вазнясенскі — у доме № 11, кв. 54.

У 1939 годзе Аляксандр Вазнясенскі прыязджае ў Казань і ўладкоўваецца на працу ў Казанскі педагагічны інстытут. У 1943 годзе ён абараняе доктарскую

дысертацыю на тэму «Даследаванні па гісторыі новай беларускай літаратуры». Дарэчы, яна асобным выданнем не выдавалася і цяпер захоўваецца ў бібліятэцы Казанскага ўніверсітэта. Пасля абароны доктарскай дысертацыі Аляксандр Вазнясенскі некалькі гадоў кіраваў кафедрай рускай і замежнай літаратур, ён актыўна і шмат працаваў, арганізоўваў навуковыя сесіі і канферэнцыі па літаратурных праблемах, вёў навуковыя даследаванні па праблемах нацыянальнай спецыфікі літаратуразнаўства і метадалогіі літаратуры, у тым ліку і па беларускай, развіваў традыцыі акадэмічнага літаратуразнаўства. У 1943 годзе яго прызначаюць дэканам гісторыка-філалагічнага факультэта Казанскага ўніверсітэта.

Недалёка ад Казані, у Пячышчах, жыў тады Янка Купала. У пачатку чэрвеня тут адбылася другая сустрэча Аляксандра Вазнясенскага з нашым песняром. 16 гадоў яны не бачыліся. Усю ноч сябры гутарылі пра Беларусь, пра літаратуру, пра падзеі на фронце. Праз некалькі дзён Купала завітаў да Вазнясенскіх. Гэта была іх апошняя сустрэча…

Доктар філалагічных навук, прафесар, літаратуразнавец і крытык Аляксандр Вазнясенскі памёр у Казані ў 1966 годзе, там і пахаваны. Студэнты і выкладчыкі Казанскага ўніверсітэта памятаюць пра свайго выкладчыка. У музеі і архіве ўніверсітэта захоўваюцца яго дакументы, запісы, публікацыі, фотаздымкі, дзённікі, творы. Сярод іх — афішы аб правядзенні розных навуковых сесій гісторыка-філалагічнага факультэта, дзе сярод дакладчыкаў ёсць і прозвішча прафесара Вазнясенскага, даведка № 58 КК РСФСР ад 1945 года аб зняцці судзімасці, атрыманая з Масквы, рабочы дзённік прафесара Вазнясенскага за 1954 год, даведка аб рэабілітацыі, атрыманая з Маскоўскага гарадскога суда ў 1964 годзе, за подпісам старшыні суда Асятро-

ва. У ёй, дарэчы, сказана, што «дело по обвинению Вознесенского Александра Николаевича, до ареста профессор Московского областного педагогического института, пересмотрено Президиумом Московского городского суда 26 октября 1964 года. Постановление коллегии ОГПУ от 29 марта 1964 года отменено, а дело в отношении Вознесенского Александра Николаевича, 1888 года рождения, производством прекращено за отсутствием в его действиях преступления. Вознесенского Александра Николаевича по настоящему делу реабилитировать».

Я пытаўся пра Аляксандра Вазнясенскага ў доктара філалагічных навук, прафесара Алега Лойкі (1931–2008), калі ён яшчэ жыў у Слоніме ў сваім доме на Віленскай вуліцы. Алег Антонавіч тады сказаў: «Аляксандр Вазнясенскі, Уладзімір Пічэта і Іван Замоцін — выдатныя навукоўцы, якія ўнеслі вялікі ўклад у беларускую гісторыю і філалогію ў 20–30-х гадах XX стагоддзя. Гэта быў нялёгкі, супярэчлівы і жорсткі час для Беларусі. Але вучоныя ў сваіх творчых ацэнках кіраваліся эстэтычнымі крытэрыямі, а не вульгарна-сацыялагічнымі догмамі. Аляксандр Мікалаевіч Вазнясенскі быў настаўнікам майго настаўніка Юльяна Пшыркова. Калі я чытаў артыкулы Вазнясенскага, мне здавалася, нібыта гэта былі артыкулы Пшыркова. Таму што разуменне было аднолькавае. Якуба Коласа ў той час шальмавалі, але крытык Аляксандр Вазнясенскі на гэта не паддаўся. І пісалі Вазнясенскі, Замоцін і Пічэта па-беларуску. Дарэчы, Замоцін быў прафесарам Варшаўскага ўніверсітэта, Пічэта — рэктарам і прафесарам Белдзяржуніверсітэта, пасля — Маскоўскага ўніверсітэта, Вазнясенскі — прафесарам Казанскага ўніверсітэта. Гэта былі найвялікшыя навукоўцы Беларусі XX стагоддзя».



Будзьце светлымі, як нашы рэкі,
Будзьце чыстымі, як нашы лясы,
Калі ласка, вельмі прашу,
Будзьце…

## НЕЗАБЫЎНЫ АЛЕГ ЛОЙКА І ЯГО ЗГАДКІ ПРА ПЕСНЯРОЎ

Мне здаецца, што мой зямляк, доктар філалагічных навук, прафесар Алег Лойка меў вялікае шчасце, што нарадзіўся ён у Слоніме, на беразе ракі Шчара. Пра свой родны горад і пра Шчару ён напісаў тысячы радкоў:

І я рады, што зразумеў:
З гэтай радасцю — не таіцца,
Што я шчасце вялікае меў
Па-над Шчараю нарадзіцца!..

Упершыню са сваім знакамітым земляком я сустрэўся ў Мінску на філфаку ў 1980 годзе. Я, як і многія мае аднакурснікі, запісаліся да яго ў літаратурнае аб’яднанне «Узлёт». Не часта адбываліся пасяджэнні літаб’яднання, але калі яны былі, то праходзілі даволі цікава, весела, актыўна.

І Алег Антонавіч нас адразу запамінаў, ведаў і шанаваў.

Да мяне старастай літаб’яднання была паэтка-студэнтка Ала Канапелька. А потым, калі Ала скончыла філфак, Алег Лойка прызначыў мяне. Хлопцы нават жартавалі: «Слонімцы літаратуру хочуць узяць пад свой кантроль». Іншыя называлі мяне вядомым Лойкавым радком «Юнак быў з-пад Слоніма родам…». Тым не менш, ніхто за гэта ў крыўдзе не быў. Літаб’яднанне

актыўна працавала, а ў 1985 годзе «ўзлётаўцы» выдалі свой чарговы паэтычны зборнік «Вусны».

Быў 1984 год. На філфаку сустрэў мяне Алег Антонавіч і кажа: «На наступным тыдні будзе пасяджэнне “Узлёту” напішы аб’яўку і вывесі на другім паверсе (мы тады вучыліся на Чырвонаармейскай вуліцы, 6. — *С. Ч.*). І я «выканаў» просьбу прафесара. Напісаў: «У такі дзень і час адбудзецца пасяджэнне літаратурнага аб’яднання “Узлёт”. Запрашаюцца паэты і празаікі, якія пішуць і думаюць па-беларуску».

Вечарам да мяне ў пакой інтэрната прыбягае вахцёр і кажа, што прафесар Лойка тэлефануе і хоча тэрмінова са мной пагутарыць. Я бягу на першы паверх, падымаю трубку і чую голас Алега Антонавіча: «Сяргей, калі ты пісаў гэтую аб’яву, чым ты думаў — галавой ці іншым месцам?» «Галавой!», — адказваю. «Не думаю, што галавой», — сказаў прафесар і паклаў трубку. Нічога не зразумеўшы, я пайшоў у свой пакой. Толькі потым я даведаўся, што Алега Антонавіча па змесце аб’явы выклікалі ў дэканат ці ў рэктарат і зрабілі заўвагу. А ён папярэдзіў мяне. Бо ў тыя 1980-я гады радок «запрашаюцца паэты і празаікі, якія пішуць і думаюць па-беларуску» «пах» нацыяналізмам. У апошнія гады жыцця, калі Алег Лойка жыў у Слоніме, я яму прыгадаў гэты студэнцкі факт. Алег Антонавіч сказаў: «Ей Богу, Сяргей, не памятаю…»

У 1982 годзе прафесар Лойка выдаў у Маскве ў серыі «ЖЗЛ» кнігу «Янка Купала». Гэта была першая кніга, напісаная беларусам пра беларуса і выдадзеная ў вядомай расійскай серыі, якую заснаваў Максім Горкі яшчэ ў 1933 годзе. Пасля выхаду кнігі ў актавай зале філфака БДУ адбылася яе прэзентацыя. Зала была паўнюткая студэнтамі і выкладчыкамі. Прафесар Сцяпан Александровіч выступіў з вострай крытыкай кнігі, усе астатнія выступоўцы яе хвалілі і віншавалі Алега Анто-

навіча. Пазней я запытаўся ў свайго земляка: а чаму ваш сябра і калега так крытычна аднёсся да выдання кнігі? Алег Лойка адказаў: «Сцяпан Хусейнавіч хацеў у Маскве выдаць адначасова кнігу і пра Якуба Коласа. Але Маскве тэкст той кнігі не спадабаўся. Вось ён і зазлаваў».

Прадмову да кнігі Алега Лойкі напісаў народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін. Прадмова была невялікая, але важкая. У ёй Іван Пятровіч адзначыў, што «кніга ёсць, — гістарычна дакладная, праўдзівая, шчырая».

Супраць выдання кнігі Алега Лойкі пра Янку Купалу ў Маскве была і пляменніца Янкі Купалы Ядвіга Юліянаўна Раманоўская. Па словах Алега Лойкі, у 1981 годзе яна паехала ў Маскву, завітала ў выдавецтва «Молодая гвардия» і прасіла, каб не выдавалі кнігу Алега Лойкі пра Янку Купалу. «Лойка, — казала Раманоўская, — кулак, памешчык, у яго было шмат зямлі на Слонімшчыне. А цяпер ён з'яўляецца членам польскай "Салідарнасці". Кнігу такога чалавека ў Маскве выдаваць нельга». Але кніга выйшла. Наклад яе тады быў 150 тысяч экзэмпляраў. Тым не менш, купіць у Беларусі кнігу было немагчыма. Толькі праз 16 гадоў Алег Лойка мне яе падпісаў у Слоніме: «Майму земляку і філфакаўцу Сяргею Чыгрыну, што Купалаўскімі сцежкамі крочыць. Поспехаў і шчасця! Алег Лойка, 1998 г.»

Калі Алег Лойка жыў у Слоніме, я вельмі часта яго наведваў. З ім можна было гутарыць бясконца, гутарыць на ўсе тэмы. Мне здаецца, што побач з Алегам Антонавічам я скончыў два філалагічных факультэта. Неяк я спытаў у яго: а які ганарар вы атрымалі за маскоўскае выданне кнігі пра Янку Купалу? Алег Антонавіч сказаў: «Сорак тысяч савецкіх рублёў». О, гэта былі вялікія грошы на той час! Калі груба іх перавесці ў даляры, то атрымаецца — больш за сорак тысяч амерыканскіх

даляраў. «Я быў тады самым багатым беларускім пісьменнікам. Грошай нікому не шкадаваў: даваў ці пазычаў пісьменнікам, сябрам…», — прызнаваўся Алег Антонавіч.

У Слоніме ў апошнія гады жыцця Алегу Лойку жылося цяжка, але пісалася лёгка. Хвароба яго даймала. Але калі я да яго прыязджаў, ён радаваўся, ажываў, усміхаўся. Алег Антонавіч адказваў на ўсе мае пытанні. Найбольш я ў яго пытаўся пра Янку Купалу і Якуба Коласа. Гэта з яго вуснаў я даведаўся, што Янка Купала першы заўважыў і ацаніў талент Канстанцыі Буйло. Калі Купала быў рэдактарам «Нашай Нівы», да яго ў кабінет часта заходзіла Канстанцыя. Дарэчы, яна была тры разы замужам, па пашпарту — значна маладзейшая, бо мяняла гады. Купала быў у яе закаханы і нават паэтку цалаваў. У 1914 годзе ў друкарні Марціна Кухты выйшаў яе першы паэтычны зборнік «Курганная кветка», адрэдагаваны Янкам Купалам.

Алег Антонавіч пра Купалу і Коласа мог распавядаць гадзінамі. Ён казаў, што Янка Купала і Якуб Колас былі добрымі сябрамі. Хаця паміж імі здаралася рознае. Жонка Якуба Коласа — Марыя Дзмітрыеўна — была даволі багатай жанчынай, ідэальнай, інтэлігентнай мяшчанкай, вельмі выхаванай, хатняй, адданай мужу. Яна кахала Якуба Коласа. І Якуб Колас яе кахаў. Але падчас вайны, калі пясняр апынуўся ў Ташкенце, ён моцна закахаўся ў перакладчыцу Сомаву з Санкт-Пецярбурга. Колас прысвяціў ёй цэлы цыкл вершаў «Ташкенцкая торба». Гэты цыкл не апублікаваны да сённяшніх дзён. Толькі пару вершаў з гэтага цыкла трапілі ў друк…

З вуснаў Алега Лойкі я таксама даведаўся і наступныя факты з жыцця нашых песняроў.

* * *

Уладзіслава Францаўна аднойчы выгнала са свайго дома  Бэндэ і Паўліну Мядзёлку. Але пасля з Паўлінай Мядзёлкай яна была ў добрых адносінах. Уладзіслава Францаўна ведала, што Мядзёлка супрацоўнічае з КДБ. Праз яе Мядзёлка атрымлівала ўсю інфармацыю пра Янку Купалу.

* * *

Янка Купала не прыняў кастрычніцкі пераварот у Расіі ў 1917 годзе. Ён марыў пра рэвалюцыю нацыянальную. Аб гэтым ён казаў на сваёй вечарыне, прысвечанай 15-годдзю літаратурнай творчасці ў 1920 годзе: «З кваціcтымі сонечнымі думкамі, з нязломнай верай у лепшую долю, пойдзем усё наперад і наперад пад сьвятым сьцягам вольнай Беларусі. Змагайся й стань вольным, беларускі народ!»

* * *

26 лютага 1932 года газеты «Беларускі звон» і «Беларуская крыніца» змясцілі некралогі на Янку Купалу і прэзідэнта Беларускай акадэміі навук Усевалада Ігнатоўскага. Калі Янка Купала прачытаў некралог пра сябе, ён адразу напісаў: «Што гэта знача? Гэта знача паказаць па-правакатарску сваім чытачам, што ў краіне Саветаў нялёгка жывецца нават пісьменнікам». А на пытанне, чаму ён ходзіць неяк бокам, Купала адказаў: «Выразалі савецкі апендыцыт».

* * *

Янка Купала ніколі не прыносіў сам вершаў у рэдакцыі газет і часопісаў. І ніколі адсюль не браў ганарараў. Усё за яго рабіла Уладзіслава Францаўна. У рэдакцыі ён заходзіў проста пагутарыць, пасядзець, спытаць у

літаратараў і журналістаў пра жыццё-быццё. Вакол Купалы адразу збіраўся гурт хлопцаў і дзяўчат. Тады ён казаў ім: «То, можа, сходзім ды хоць па куфлю піва вып'ем? А то вы нешта тут вельмі зашчыраваліся…»

* * *

Член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Міхась Ганчарык аднойчы згадаў такі выпадак. Прыходзіць ён да Янкі Купалы, а той сядзіць з Якубам Коласам і выпівае. Міхась Ганчарык да спіртнога быў даволі раўнадушны чалавек. А тут здарылася такое, што песняры напаілі хлопца. Прачынаецца ён пад бэзам. Якуб Колас будзіць яго і кажа: «Уставай, хлопец, а то змерзнеш!»

* * *

Цётка (Алаіза Пашкевіч) вельмі кахала Янку Купалу, хаця за яго была старэйшая на 6 гадоў. Купалу яна шчыра называла Купалінка. А пазней Уладзіслава Францаўна, праводзячы экскурсіі па музеі Янкі Купалы ў Мінску, казала, падышоўшы да партрэта Цёткі: «Гэта я адбіла Янку Купалу ад Цёткі!» Смех дый годзе! Дарэчы, Цётка ў 1911 годзе выйшла замуж за літоўскага сацыял-дэмакрата Сцяпанаса Кайрыса. Але гэта быў фіктыўны шлюб. Як муж з жонкаю яны ніколі не жылі. У 1944 годзе Кайрыс выехаў на захад, а потым — у ЗША.

* * *

Некалі Алегу Лойку Лявон Луцкевіч перадаў вельмі цікавыя матэрыялы пра Янку Купалу. «З твайго дазволу, Лявон, я іх выкарыстаю пры напісанні кнігі пра Купалу "Як агонь, як вада"», — сказаў Алег Лойка. «Калі ласка, Алег, рабі што хочаш!», — пагадзіўся Лявон Анто-

навіч. А пасля Лявон Луцкевіч, калі з’явілася кніга, асудзіў Алега Лойку. Спадар Лойка неяк мне сказаў: «Мяне раскрытыкавалі, што я Луцкевічаў паказаў не гераічнымі асобамі Беларусі. Вядома, што яны знатныя асобы ў нашай гісторыі. Але Янка Купала іх не прымаў. Асабліва Івана. Бо Іван быў палітык, дзялок. Ён і краў, і гандляваў, і махляваў і г. д. А Янка Купала не любіў такіх людзей. Ён казаў, што «Нашу Ніву» трэба выдаваць шчыра. А шчыра не атрымлівалася. Выдаўцы рабілі розныя махінацыі, і Янку Купалу, Якубу Коласу ніхто ніколі грошай за працу ў газеце не даваў. Яны сядзелі на галодным пайку. Ім давалі толькі 5 капеек на абед. А за гэтыя капейкі можна было паабедаць толькі ў чарнасоценскай сталоўцы. І яны абедалі. Жах!.. Купала з Луцкевічамі сябраваць не мог. Бо яны былі амбіцыёзнымі. І хто для іх быў Купала?.. Ды ніхто. Яны мелі вышэйшыя адукацыі, а Купала не меў. Яны былі хітрыя, багатыя, наглаватыя. А Купала быў просты, шчыры. Што такое музей Івана Луцкевіча? Экспанаты да яго ён купляў, краў, выманьваў. А Купалу гэта не падабалася. Купала быў ідэальным інтэлігентам. Іван ідэальным інтэлігентам не быў».

* * *

Уладзіслава Францаўна шчыра сябравала з Вандай Лявіцкай. Аднойчы яны арганізавалі вечарынку. Простую вясёлую вечарынку з жартамі, анекдотамі, вершамі. Да сябе запрасілі Мікалая Улашчыка і яшчэ некалькі маладых сяброў Іны Рытар. Там былі Янка Купала, Вацлаў Ластоўскі і Язэп Лёсік. Гэтую сходку сябры назвалі Саюзам вольнай Беларусі. Пасля вечарыны пасадзілі Язэпа Лёсіка, якога ў 1940 годзе ўжо не стала. Згусціліся хмары і над астатнімі сябрамі вечарыны. Андрэй Александровіч пісаў, што «сабралася нацыяналістычная публіка». Дарэчы, пра вечарыну з Янкам

Купалам і моладдзю ГПУ даведалася ад Улашчыка, які хутка апынуўся ў Маскве. Іна Рытар згадвае гэтую сустрэчу ў часопісе «Конадні» (1963, № 7, с. 109–122).

Расказваў Алег Лойка і пра іншых беларускіх пісьменнікаў, прыгадваў вучоных, медыкаў, палітыкаў, пра іх сяброўства і адносіны з Янкам Купалам і Якубам Коласам. І калі я сёння прыгадваю свайго Настаўніка, успамінаюцца яго радкі: «Думаў я — усё наперадзе, аказалася — ззаду». На вялікі жаль, яно так.

## ЗМЕСТ

